PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 22 (2194) Год XLIII Беласток 31 мая 1998 г. Цана 1 зл.

## Тэлекамунікацыйныя хітрыкі

Уладзімір Сідарук

**У чаромхаўскай грамадскасці зноў бурліць — гэтым разам справа датычыць тэлефонаў, якія людзі хочуць правесці ў свае кватэры. Пішуць яны прашэнні ў гайнаўскае аддзяленне сувязі, а тамашнія чыноўнікі адсылаюць у гміну — нібыта справу там трэба аформіць.**

**— Калі далей так будзе, — кажа ўзбураны войт, — вазьму некалькі чалавек у аўтобус, не пашкадую свайго бензіну і павязу іх у рэдакцыю, хай самі раскажуць...**

Пра пабудову АТС у Чаромсе гаварылася даўно. Састаўляў я спісак будучых абанентаў — я таксама на яго запісаўся. Калі восенню 1995 года я папытаўся, колькі давядзецца чакаць тэлефона, мне адказалі, што „два, можа тры гады".

У мінулым годзе тэлекамунікацыя сама ўжо пачала цікавіцца, колькі ў Чаромсе ахвотных правесці ў кватэру тэлефон. Сваё прашэнне звазіў я ў Гайнаўку, а там усё адбылося як трэба: праверылі мой пашпарт, я распісаўся, а на пытанне „калі", працаўніца ветліва адказала:

— Цяпер праводзіцца мадэрнізацыя гайнаўскай АТС. Калі праца закончыцца тэрмінова, наступнай у чарзе Чаромха.

Невядома як доўга яшчэ тэлекамунікацыя заманьвала б пустымі абяцанкамі сваіх кліентаў, калі б не тая акалічнасць, што ў Гайнаўцы

**з'явілася канкурэнтная фірма „Рэтэль"**

З гэтага моманту ў Гайнаўцы пачалася сапраўдная канкурэнцыя і сапраўднае змаганне за кліента. Навочныя сведкі казалі, што, бывала, пры адным жылым блёку працавалі работнікі абедзвюх фірмаў — манапалістычнай тэлекамунікацыі і прыватнікі з „Рэтэля".

Наступная вестка пра тэлефоны ў Чаромсе з'явілася ў красавіку гэтага года — на сустрэчы ў Гмінным асяродку культуры з паслом Сяргеем Плевам.

— Чаму чарамшукі, — запытала сакратар Гміннай управы Валянціна Кердалевіч, — вымушаны плаціць тэлекамунікацыі 1500 зл. за тэлефон, а не 400 зл. + VAT?

Пасол адказаў, што тэлекамунікацыі, як манапалісту, трэба супаставіць моцную канкурэнцыю, бо інакш грамадства будзе прымушана плаціць такія менавіта цэны. Пасол паабяцаў знайсці таннейшага выканаўцу.

22 красавіка г.г. у чаромхаўскім ГОК адбыўся

[працяг ☞ 3]



# Асвячэнне храма на Святой Гары

Аляксандр Вярбіцкі

У нядзелю 17 мая на Святой Гары Грабарцы адбылося асвячэнне адбудаванага пасля пажару храма Праабражэння Гасподняга. Стары храм згарэў восем гадоў таму ў выніку злачыннага падпалення. Багаслужбу з удзелам некалькіх тысяч вернікаў узначаліў уладыка Сава, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы, у саслужэнні архіепіскапа Сімана і епіскапаў Авеля, Мірона і Георгія. Падчас службы мітрапаліт Сава рукапалажыў сястру Ермініяю ігуменняй жаночага манастыра на Святой Гары. Медалямі св. Марыі Магдаліны былі ўзнагароджаны найбольш заслужаныя пры адбудове храма.

У пропаведзі ўладыка Сава многа месца адвёў ролі Святой Гары: была яна месцам яднання вернікаў у містычнае цела Праваслаўнай царквы. Згадваючы пра паломніцтва праваслаўнай моладзі, якое было прымеркавана пад урачыстасць, мітрапаліт адзначыў, што атрымала яна новы залог для жыцця і ўрастання ў гісторыю Царквы. Уладыка дзякаваў усім, хто прычыніўся да аднаўлення храма: манашкам, пастырам, будаўнікам і ахвяравальнікам. Асаблівую падзяку выказаў ён уладам усіх узроўняў і кадэнцыяў ды асабіста былым прэзідэнту Войцеху Ярузэльскаму, маршалку Сената Анджэю Стэльмахоўскаму і маршалку Сейма Мікалаю Казакевічу, імёны якіх ўвекавечаны на дараваных імі званах.

Святая Гара Грабарка патрабуе агароджы, дзеля гэтага трэба пабудаваць каля кіламетра тыну. Уладыка Сава звярнуўся да ўсіх вернікаў з заклікам здзейсніць гэтую як жа патрэбную мэту.

* * *

Прызыў архіпастыра вельмі своечасовы, бо агароджа святыні лішча — гэта пільная экалагічная патрэба, якую вызывае наша перанасычаная разбуральнымі машынамі эпоха. Выказваючы памяркоўнае зацікаўленне

[працяг ☞ 9]

## Не! для беларускіх ініцыятыў

Восенню мінулага года Аддзяленне культуры Ваяводскай управы, як штогоду, даслала ўсім культурным установам Беласточчыны фармуляры на гранты з мясцовага дзяржаўнага бюджэту. У мінулых гадах ваяводскія ўлады давалі нават нейкія дробныя сумы некаторым беларускім арганізацыям на падтрымку ладжаных імі мерапрыемстваў. Сёлета дырэктар Аддзялення грамадзянскіх спраў даслаў усім беларускім арганізацыям адказ, у якім „uprzejmie informuje", што Ваяводская ўправа ў Беластоку падтрымлівае толькі тыя праекты, якія маюць міжнародны ці агульнапольскі характар. Гучыць гэта як чорны гумар, але гэта факт, які, між іншым, паказвае, што можа чакаць беларускую культуру ў самаўрадавым ваяводстве. Аказваецца, што цяперашняя крэсавая адміністрацыя думае і дзейнічае паводле прынцыпаў мінулай эпохі.

[шырэй ☞ 4]

## ... але кароў гадуюць

Найбольш нараканняў ад людзей пачуеце ў малачарні. Гадоўля кароў гэта яшчэ адзіны сякі-такі прыбытак, але ўсё-такі за малако павінны больш плаціць. Напітак у магазіне, зроблены са звычайнай вады, у тры разы даражэйшы. А колькі ж каля кароў трэба нахадзіцца.

[артыкул ☞ 3]

## Пад буслянкай

Набраўшы духу ў грудзі, нямею. На зэдліку ў кухні сядзіць гаспадыня. Сухашчавая, з выгляду бабулька, але з жывымі вачыма, стройная. Стол накрыты сучаснай цыратай, але наўкола — жывая даўніна! Чорныя бэлькі, мэбля, ток. Старадаўняя высачэзная шафа, клееная печ... А за сталом — ні то ляжыць, ні сядзіць нерухомы старэча, склаўшы рукі на грудзях. Не дыхае, не варушыцца...

[артыкул ☞ 8]

## Зялёныя святкі

У асноўным адводзіліся яны культу раслiннага свету. Яшчэ ў 70-я гады на Беласточчыне паўсюдна прыбіралі і ўпрыгожвалі хаты ды цэрквы галінкамі бярозы, аеру, дрэўцамі ліпы або дуба. Сляды старажытных дахрысціянскіх абрадаў сустрэла я зусім нядаўна ў Такарах. Зараз яны асэнсоўваюцца як хрысціянскія сімвалы і выдатна ажыўляюць царкоўны абрад.

[артыкул ☞ 9]

# Мы прачыталі

*W liczącym 289 mln ludzi ZSRR mieliśmy 18 mln urzędników. Dziś Rosja ma 147 mln mieszkańców i 22 mln urzędników. Absolutnie niesprawnych. Przypomnę, że 86 proc. wszystkich rosyjskich pieniędzy osiada dziś w Moskwie, 10 proc. w Niżnym Nowgorodzie i Sankt Petersburgu, a na ogromną resztę kraju przypada tylko 4 proc.*, — сказаў Аляксандр Лебедзь.

*Gazeta Wyborcza, nr 111*

* * *

*Мы будуем грамадства, якое гарантуе і надзейна абараняе правы і свабоду асобы, нацыянальнае і рэлігійнае раўнапраўе, дзе пануе закон і падтрымліваецца правапарадак. Павялічыўся ў нас аб'ём вытворчасці. Выраслі заробкі. Падняліся пенсіі. Больш стала інвестыцыяў. Менш беспрацоўных. Будуюцца дамы. Праводзяцца святы яднання і фестывалі сяброўства. Толькі заходнія дзяржавы трацяць вялікія грошы, каб праводзіць лінію апазіцыі на тэрыторыі нашай дзяржавы*, — заявіў падчас чарговага шматгадзіннага выступлення прэзідэнт РБ Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

*Навіны, н-р 41*

* * *

*Геаграфічна Беларусь — еўрапейская краіна, але культурна-гістарычна мы частка ўсходнеправаслаўнай цывілізацыі. Перанесці заходнія формы жыцця на нашу глебу немагчыма.*

*Голас Радзімы, н-р 16*

* * *

*W PRL zrodził się dowcip, że nasze społeczeństwo składa się z ludzi porządnych i kombinatorów: ci pierwsi z porządnych domów jadą porządnymi autami na porządny urlop, ci drudzy kombinują jak przeżyć do pierwszego. Powszechne było oczekiwanie, że gdy nastąpi przełom zamienimy się miejscami: kto był pod wozem, będzie teraz na wozie. Okazało się inaczej. Ludzie związani ze starym ustrojem w nowej sytuacji lepiej sobie radzą, niż ci, co walczyli o nowy.*

*Systematycznie rośnie skala nierówności. Prezes państwowego banku zarabia przez miesiąc tyle, ile lekarz (oficjalnie) ze specjalizacją II stopnia przez blisko trzy lata. Wiele osób zarabia w Polsce miesięcznie po 500 milionów złotych, z drugiej strony ponad 2 miliony ludzi żyje poniżej minimum egzystencji. Ponad połowa społeczeństwa czuje się oszukana i zagubiona. Ta wyalienowana i sfrustrowana część społeczeństwa marzy o silnym przywódcy, odrzucając demokrację, która im się jawi jako przyzwolenie na bezkarne kombinocje i kradzieże.*

*Polityka, nr 20*

Такая сітуацыя найчасцей нараджае ўсялякіх Гітлераў і Лукашэнкаў.

* * *

*Raport opublikowany w Waszyngtonie z okazji 3 Maja — Dnia Wolności Prasy — opisuje 186 krajów. Polska, choć od lat znajduje się w grupie krajów z pełną swobodą wypowiedzi, w tym roku znalazła się blisko spadku do grupy krajów, gdzie zagrożona jest wolność słowa. Polska może się wkrótce znaleźć w towarzystwie Mongolii, w której istnieje tylko „częściowa wolność" dla dziennikarzy. Krytykowani jesteśmy przede wszystkim za naciski polityków na telewizję publiczną i podawanie do sądu dziennikarzy za nieujawnianie źródeł informacji. W Europie nie ma żadnej wolności słowa na Białorusi, w Chorwacji, Bośni i Jugosławii. Sytuacja prasy białoruskiej jest gorsza niż na Kubie. Rząd białoruski — stwierdza raport — narzucił swą kontrolę mediom w iście stalinowskim stylu.*

*Gazeta Wyborcza, nr 103*

* * *

*Nie udało się posłowi SLD Piotrowi Gadzinowskiemu wprowadzić na obrady sejmowej komisji rodziny gwiazdy francuskich filmów porno Dalily, która miała posłom AWS doradzić jak uprawiać politykę prorodzinną za pomocą rozwiniętego seksu. Takiej laski tu jeszcze nie widziałem, — powiedział jeden ze strażników sejmowych.*

*Polityka, nr 18*

* * *

*Наведалі Вільню польскія беларусы Сакрат Яновіч, вядомы пісьменьнік і публіцыст, і знаны ў сьвеце мастак Лёнік Тарасэвіч. Запрошаны яны Фондам Адкрытай Літвы з нагоды выйсьця ў Італіі кнігі Сакрата Яновіча „Мініятуры", якую ілюстраваў Лёнік Тарасэвіч. Кніга (выбраныя творы пісьменьніка) выйшла на дзьвюх мовах, на ангельскай і на італійскай, і, як паведаміў аўтар, „зрабіла ў сьвеце фурор".*

*Рунь, н-р 3*

* * *

*Uczniowie Zespołu Szkół Zawodowych nr 1 w Białymstoku postanowili pokazać pierwszoklasistom, kto tu rządzi, według zasad fali stosowanej wobec młodych roczników w wojsku. Na zebraniu zorganizowanym w łazience poinformowali, że najmłodsi są kotami i wszelka niesubordynacja będzie karana jak w wojsku. Podczas jednego z kolejnych apeli postanowili sprawdzić talent wokalny i taneczny pierwszoklasistów. W tym celu polecili połowie chłopców zdjąć koszule i ci byli „panami", pozostali „panienkami", z którymi mieli tańczyć. Do tańca śpiewał chór stojący na parapecie. Innego rodzaju zabawą było „pasowanie", które polegało na biciu kotów, którym wcześniej zawiązano oczy ręcznikami, „ścieżki zdrowia", gdzie mieli oni biegać przed szpalerem rozwydrzonych starszoklasistów, którzy nie szczędzili im kopniaków.*

*Kurier Poranny, nr 112*

# З мінулага тыдня

**У Прэзідэнцкім палацы** адбылася другая сустрэча ў вярхах, прысвечаная адміністрацыйнай рэформе краіны. Прэзідэнт і апазіцыя згадзіліся на прапанаваны прэм'ер-міністрам тэрмін выбараў у гмінныя, павятовыя і ваяводскія рады — 11 кастрычніка.

**Епіскап Гайнаўскі Мірон** будзе новым Праваслаўным ардынарыем Войска Польскага. Заменіць ён на гэтай пасадзе **архіепіскапа Саву**, які стаў перашаіерархам Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

**Міністэрства замежных спраў** заявіла, што Польшча гатова зняць фінансавыя абмежаванні на ўезд у краіну расіян і беларусаў. З сярэдзіны ліпеня ўводзяцца новыя расцэнкі на ўязныя візы. Аднаразовае перасячэнне граніцы ў Польшчу будзе каштаваць каля 5 долараў, а за шматразовую візу тэрмінам на паўгода будзе брацца плата ад 14 да 20 долараў. Сваё рашэнне МЗС матывавала імкненнем аблегчыць доступ у краіну гасцям з-за ўсходняй граніцы і аднавіць рух на граніцы да ўзроўню, які задавальняе польскіх прадпрымальнікаў.

**Урад** будзе прымаць юрыдычныя, арганізацыйныя і кадравыя меры па спрыянні эфектыўнай ахове дзяржаўнай граніцы, — заявіў у Шчэціне віцэ-прэм'ер, міністр унутраных спраў і адміністрацыі **Януш Тамашэўскі**. „Яшчэ лепш будзем забяспечваць усходнюю мяжу, — сказаў ён. — Не ствараем аднак новага муру, хочам адкрываць дадатковыя пераходы, але маем там стварыць таму супраць злачыннасці на пераходах і зялёнай граніцы". Віцэ-міністр МУСіА **Войцех Брохвіч** сказаў, што ў будучыні галоўнай задачай польскіх пагранічнікаў будзе змаганне з нелегальнай міграцыяй як на памежжы, так і ў глыбі краіны.

**Чужаземцы** ў 1997 годзе атрымалі дазвол на куплю 3 тыс. гектараў зямлі і 42 жылых памяшканняў, — пішацца ў справаздачы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі. — Агулам у 1994-1997 гадах чужаземцам дазволена было купіць у Польшчы 360 кватэр. Найбольш дазволаў атрымалі грамадзяне Нямеччыны, краін былога Савецкага Саюза, Швецыі і Аўстрыі. На думку МУСіА, няма пагрозы, што чужаземцы раскупяць усю Польшчу, бо набытыя імі нерухомасці складаюць усяго невялікую долю паверхні краіны. Зацікаўленне замежнага капіталу купляй нерухомасцей, прызначаных для гаспадарчай дзейнасці ў Польшчы, не надта вялікае, хаця паступова ўзрастае.

**Беластоцкія паслы** Сейма ад Саюза левых дэмакратаў **Владзімеж Цімашэвіч**, **Сяргей Плева** і **Ян Сычэўскі** звярнуліся ў Міністэрства транспарту з просьбай яшчэ раз уважліва прааналізаваць і адмяніць рашэнне аб ліквідацыі пасажырскага чыгуначнага руху па маршрутах Чаромха—Гайнаўка і Гайнаўка—Цісоўка. На думку парламентарыяў, замена чыгуначнага транспарту аўтобусным адмоўна паўплывае на экалогію, абмяжуе турыстычны рух, пазбавіць навакольныя вёскі лучнасці з горадам, а Гайнаўку — з Варшавай і іншымі гарадамі краіны, а таксама ўскладніць даезды моладзі ў школы і рабочых на працу.

## Папраўкі да № 21

Старонка 3 — тэрмін сёлетняга „Басовішча" **17-18.07.1998**, а не 17-18.07.1997.

Старонка 8 — „Тыднёвік Магілёўскі" выходзіць **у Магілёве**, а не ў Гомелі.

За дапушчаныя памылкі сардэчна перапрашаем.

**РЭДАКЦЫЯ**



# Весткі з Беларусі

**Заява Сойму БНФ**

9 мая г.г. Сойм БНФ „Адраджэнне" прыняў заяву, у якой патрабуе вярнуць свабоду Аляксею Шыдлоўскаму і Паўлу Севярынцу. Першы з іх па прыгаворы Вярхоўнага Суда павінен адбываць два гады турэмнага зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму толькі за тое, што рабіў патрыятычныя і антыдыктатарскія надпісы на сценах. Павел Севярынец 2 красавіка г.г. падчас мірнай дэманстрацыі ў абарону незалежнасці краіны быў схоплены і да гэтага часу ўтрымліваецца ў арышце. „Сойм БНФ, — пішацца ў заяве, — рашуча пратэстуе супраць любога праследу людзей па палітычных матывах, патрабуе неадкладнага і безагаворачнага вызвалення з-за кратаў Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца. Асоб, адказных за незаконныя дзеянні ў дачыненні да маладых фронтаўцаў, пакарае ў будучыні немінучы і справядлівы суд".

**Бяседа ў КДБ**

11 мая г.г. сябра Маладога фронту Вадзім Канапацкі атрымаў позву з прапановай з'явіцца ў гэты ж дзень а гадз. 17-й у мясцовае ўпраўленне КДБ „для беседы". У позве пазначана таксама, што ў выпадку „неявки свидетеля без уважительной причины он на основании статьи 67 УПК Беларуси может быть подвергнут приводу". Дадзеная позва па форме і сваёй сутнасці з'яўляецца антызаконным, антыканстытуцыйным дакументам, які груба парушае правы асобы. Вадзім Канапацкі ўжо не раз падвяргаўся антызаконным арыштам і псіхалагічнаму ўціску з боку органаў дзяржбяспекі.

**Дзяржаўныя — менш рэнтабельныя**

Рэфармаваныя суб'екты гаспадарання рэспублікі працуюць намнога больш эфектыўна чым дзяржаўныя. Пра гэта сведчаць вынікі аналізу гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў з рознай формай уласнасці, праведзенага спецыялістамі Міністэрства дзяржаўнай маёмасці Беларусі. Калі рэнтабельнасць вытворчасці на дзяржаўных прадпрыемствах складала летась у сярэднім 11,9%, то ў акцыянерных таварыствах гэты паказчык дасягаў узроўню 15,7%. Акрамя таго на працягу мінулага года недзяржаўныя прадпрыемствы атрымалі на 6,7 млн., а акцыянерныя таварыствы на 26,5 млн. рублёў больш балансавага прыбытку на кожнага работніка чым прадпрыемствы дзяржаўнай формы ўласнасці.

**Стандартызацыя паводле ISO**

Беларусь рыхтуецца да ўступлення ў самую ўплывовую міжнародную арганізацыю па стандартызацыі ISO. Пасля II сусветнай вайны яе стварылі 25 краін. Цяпер арганізацыя налічвае больш за 100 членаў. Сістэма экалагічнай стандартызацыі харчовай і прамысловай прадукцыі, якая толькі пачынае фарміравацца ў Беларусі, ужо на сённяшнім этапе адпавядае еўрапейскім нормам. У далейшым плануецца стварыць сістэму па экалагічнай ацэнцы тэрыторыі прадпрыемстваў і вытворчасцей. Праект адпаведнага палажэння распрацаваны Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і Дзяржаўным камітэтам па стандартызацыі.

**Менш нумароў**

Сёлета за першыя тры месяцы года на мясцовых тэлефонных сетках уведзена ў эксплуатацыю амаль 30 тысяч нумароў АТС. Гэта на 7% ніжэй запланаванага ўзроўню. З-за недахопу валютных сродкаў не забяспечаны ўвод нумарных ёмістасцей, якія планаваліся яшчэ здаць летась. На думку міністра сувязі, праграма развіцця сродкаў сувязі знаходзіцца пад пагрозай зрыву з-за абмежаваных магчымасцей па канвертацыі фінансаў замежнымі валютамі, неабходнымі для закупкі імпартнага абсталявання. Улічваючы такія цяжкасці, на мясцовых тэлефонных сетках неабходна ўстанавіць больш айчыннага абсталявання.

**Адораныя дзеці**

Імянныя стыпендыі абласнога, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў для асабліва адораных вучняў заснаваны ў Гродзенскай вобласці. Гэта толькі адна з мер па рэалізацыі абласной праграмы „Адораныя дзеці", мэта якой — як мага раней выявіць таленавітых хлопчыкаў і дзяўчынак і ўсяляк садзейнічаць развіццю іх творчых здольнасцей.

# Пусцее вёска, але кароў гадуюць

**— Толькі старэйшыя гаспадары засталіся, усе маладыя ў горад павыязджалі, — гаворыць Уладзімір Радзіванюк, малачар з вёскі Сацы. — Кароў гадаваць яшчэ крыху аплачваецца, дык цягнем гэтае малако.**

Вёска Сацы непадалёк Трасцянкі. Дамоў сто раскінутых вакол дзвюх вуліц. Пасярэдзіне вёскі белая малачарня, адзінае месца, дзе два разы ў дзень сустракаюцца тыя гаспадары, якія гадуюць кароў. Вёску наведваю па просьбе малачара Уладзіміра Радзіванюка, чытача „Нівы", які хацеў бы, каб і пра родную вёску можна было прачытаць па-беларуску.

— Раней людзей у вёсцы было вельмі многа, зараз у горад паўцякалі, — расказвае малачар. — Некалькі гаспадароў, гадоў пад пяцьдзесят, а ўсе астатнія пенсіянеры. Зямлю перапісалі на дзяцей, якія ў гарадах, а самі яшчэ працуюць на ёй. Цяпер кожны чацвёрты дом пусты. Час ад часу дзеці прыедуць, глянуць у хату, хлеўчык і ад'язджаюць.

Калі едзем з Уладзімірам Радзіванюком праз вёску, паказвае якія дамы пустыя. Каля іншых корпаюцца старэнькія бабулькі.

— Найбольш наслухаешся, як людзі наракаюць, калі прыходзіш у малачарню. Гадоўля кароў гэта яшчэ адзіны сякі-такі прыбытак, але ўсё-такі за малако павінны больш плаціць. За літр 4-працэнтнага малака I класа 63 грошы плацяць, а за III клас — 48 грошаў. Напітак у магазіне, зроблены са звычайнай вады, у тры разы даражэйшы. А колькі ж каля кароў трэба нахадзіцца. Ад пачатку сакавіка пачалі лічыць бактэрыі і III клас штораз часцей трапляецца. Зараз забаронена прымаць малако, якога тэмпература вышэйшая чым 12 градусаў. Не адзін раз здаралася ўжо, што адсылаў я людзей дамоў з цёплым малаком. Пэўна, сыр рабілі.

Згодна з еўрапейскімі нарматывамі малачарні не павінны прымаць малака, якога тэмпература вышэй 8 градусаў. Цяпер часова купляюць яшчэ малако тэмпературай да 12 градусаў. Як гаспадарам, у якіх няма спецыяльных халадзільнікаў, астудзіць малако да такой тэмпературы?

— Праўду кажучы, яшчэ не было вялікай спёкі, але людзі вынаходлівыя, — працягвае размову малачар Радзіванюк. — Вячэрняе малако трымалі ў калодзежах або пластмасавыя бутэлькі з вадою кідалі ў маразільнік, а пасля з лёдам кідалі ў малако і так паніжалі тэмпературу. Зараз Гайнаўскі малочнатаварны кааператыў купіў нашай малачарні спецыяльны халадзільнік на 1 600 літраў.

Гаспадары, у якіх больш кароў, купляюць сабе спецыяльныя халадзільнікі, іншым застаецца толькі вынаходлівасць. Але ж ці можна ў ліпені астудзіць у калодзежы малако да 8 градусаў або, хаця б, да 12?

Пасля 9 мая, калі ў Сацах пачаў працаваць спецыяльны халадзільнік, больш чым 40 гаспадароў прывозіць малако два разы ў дзень, вечарам і раніцай, што дазваляе халадзіць яго да 8 градусаў. Да двух гаспадароў Яна Максімюка (у якога 16 кароў) і Яўгена Раеўскага (12 кароў) прыязджаюць за малаком на панадворак. Ужо здаўна ў іх свае халадзільнікі.

— У мяне 11 гектараў ворнай зямлі і 5 лесу, але землі слабенькія, IV-VI класаў, дык без кароў прыбытку не было б, — кажа мой суразмоўца. — Ёсць і свае машыны, у тым ліку і даільная. Хаця сын у Беластоку, а дачка ў Заблудаве, восем кароў яшчэ гадую. Цяпер недзе пад 80 літраў малака нашу, але бывае і больш. Добра, што цяпер два камбайны „Бізон" у вёсцы, дык перасталі каля снапавязалак бегаць, а і малаціць восенню не трэба. Ну, праўду кажучы, прыбытак ад збожжа малы, але сеяць трэба ж.

Бачым, што вяртаецца са школы вучань, сусед майго размоўцы.

— У нас трое дзетак, якія ездзяць у школу ў Трасцянку. Засталося яшчэ кавалераў дзесяць, а дзяўчыны ніводнай. У горад паўцякалі, — уздыхае спадар Радзіванюк. — Такая вёска была, а пусцее. Адно кароў многа.

**Аляксей Мароз**

# Бельскія беспрацоўныя

**Аб пытаннях працаўладкавання насельніцтва ў Бельскім раёне з Алінай ПАЎЛЮЧУК — намеснікам кіраўніка па арганізацыйна-адміністрацыйных справах Раённай управы па працаўладкаванні ў Бельску-Падляшскім гутарыць Міхал Мінцэвіч.**

***— Афіцыйная статыстыка што і раз суцяшае нас, што ў маштабе краіны ці ваяводства лік беспрацоўных падае. А як гэтая справа выглядае ў вашым раёне?***

— Лік і паказчык беспрацоўных у Бельскім раёне ўвесь час падаюць. На канец квартала гэты паказчык усталяваўся на 7,9% ад агульнай колькасці занятага насельніцтва. У групе работнікаў сельскай гаспадаркі (з выключэннем індывідуальнага сектара) было 21,1% беспрацоўных. На канец сакавіка 1998 г. у нас на ўліку стаіць 2675 беспрацоўных, галоўным чынам гэта жанчыны. На працягу красавіка лік асоб, які атрымоўваюць грашовую дапамогу па беспрацоўю, зменшыўся на 74 асобы і складае 415 чалавек. За гэты час зарэгістравалася 186 новых беспрацоўных, а з уліку было знятых 260 асоб.

***— А колькі беспрацоўных вы зарэгістравалі ў падначаленых вам гмінах?***

— У гарадскіх гмінах у Браньску маем зарэгістраваных 156 чалавек, у тым ліку 90 жанчын, і ў Бельску — 1450 (994 жанчын). У вясковых гмінах гэтыя лікі прадстаўляюцца наступным чынам: Браньск — 121 (66), Бельск — 228 (138), Боцькі — 172 (86), Орля — 170 (86), Рудка — 107 (56) і Вышкі — 189 (2).

***— Якія прафесійныя групы беспрацоўе спасцігае найчасцей?***

— Найбольш беспрацоўных нагля-даецца ў групе малаадукаваных людзей. Многія беспрацоўныя не маюць прафесіі — гэта перш за ўсё асобы з пачатковай адукацыяй. Сярод астатніх беспрацоўных 48 закончылі прафесійныя сярэднія школы, 37 — прафтэхвучылішчы, 13 — агульнаадукацыйны ліцэй і 1 асоба — ВНУ. У нас, паводле даных на канец красавіка, зарэгістраваных 99 выпускнікоў школ, у тым ліку 72 жанчыны. Сярод шукаючых працы многа ў нас эканамістаў (101), прадаўцоў (287), краўчых (99), прадстаўнікоў усяляких будаўніча-рамонтных прафесій, прыбіральшчыц, шафёраў ці зборшчыкаў электронных вузлоў. Гэтыя апошнія — былыя работнікі мясцовай „Эльвы".

***— Хто цяпер можа карыстацца грашовай дапамогай па беспрацоўі?***

— Каб атрымаць права на дапамогу ў паўгадовы тэрмін трэба прапрацаваць сама меней год на поўным штаце. Асноўная дапамога складае 350,70 зл. і ў залежнасці ад стажу працы выплачваецца ад 80% да 120% гэтай сумы. У нас 87 асоб карыстаецца дапенсіённай дапамогай. Права на такі від дапамогі маюць асобы, у якіх ёсць адпаведны стаж працы: жанчыны — 30, а мужчыны — 35 гадоў, або адпаведна 25 і 30 гадоў, калі яны 15 гадоў прапрацавалі ў асабліва цяжкіх умовах. Дапенсіённая дапамога складае 120% асноўнай. А два гады да дасягнення пенсіённага ўзросту прыслугоўвае ім пенсіённая дапамога, якой у нас карыстаюцца дзве асобы.

***— Якія бельскія прадпрыемствы прад'яўляюць найбольшую прапанову для беспрацоўных?***

— Гэта перш за ўсё Унібуд, Анатоль-Польска, Гоп і ўстановы, якія арганізуюць публічныя работы.

***— А якім чынам ваша ўстанова садзейнічае ліквідацыі беспрацоўя?***

— Галоўны абавязак Раённай управы па працаўладкаванні — збіранне і распаўсюджванне інфармацыі аб прафесіях і магчымасцях перакваліфікацыі. Беспрацоўныя без прафесійнай падрыхтоўкі і асобы, якія не могуць знайсці працы адпаведна сваёй кваліфікацыі, могуць старацца атрымаць ад нас дапамогу ў падрыхтоўцы да новай прафесіі. У мінулым годзе арганізавалі мы курсы для бухгалтараў, фрэзероўшчыкаў-шліфавальшчыкаў, зваршчыкаў, гандляроў, вучылі абслугоўваць камп'ютэр. У гэтым годзе правялі мы, між іншым, курсы па вадзіцельскія правы і для шліфавальшчыкаў. У гэтым годзе плануем абучыць 100 беспрацоўных. Выпускнікоў школ высылаем на стажыроўкі. Дамаўляемся з прадпрыемствамі наконт звароту ім складчыны на ЗУС, калі тыя прымуць на працу накіраваных намі беспрацоўных. На такіх умовах працаўладкавалі мы дваццаць чалавек. Апрача таго збіраем прапановы і вядзем пасрэдніцтва ў галіне кароткатэрміновых, сезонных і часовых работ.

***— Дзякую за размову.***

# Тэлекамунікацыйныя хітрыкі

[1 ☞ праця́г]

**сход зацікаўленых тэлефанізацыяй**

Прыцягнуў ён шырокі круг аматараў тэлефоннай трубкі.

— Не на нашу кішэню гэтыя тэлефоны, — пракаментаваў пазней адзін удзельнік сустрэчы. — Трэба цяжкія тысячы ў месяц зарабляць, каб заплаціць 42 зл. месячнага абанементу і 1,60 зл. за мінуту размовы.

Сход датычыў сотавых тэлефонаў.

— Я і за 22 грошы, — сказаў іншы ўдзельнік сустрэчы, — пазваню ў Беласток, карыстаючыся дабрадзейнасцю тэлекамунікацыі. Бяда толькі, што гміна ва ўсё гэта ўмешваецца. Грошы з людзей для сябе злупіць хоча. Мой брат Васіль, — працягваў ён, — быў у Гайнаўцы, дзе яму сказалі, што тэлекамунікацыя за 600 зл. правядзе тэлефон, а астатнія грошы, быццам, войт на гміну бярэ...

Раніцай наступнага дня я зайшоў у Гмінную ўправу. Калі я расказаў пачутае, сакратар мне адказала:

— Не верце ў гэта, то хлусня. У войта афіцыйныя лісты з беластоцкай тэлекамунікацыі, дзе ўсё ясна напісана. Запрашаю вас заўтра, будзе войт, усё пакажа, хай грамадства даведаецца...

6 мая г.г., ідучы ў гміну сустрэў я пенсіянера Зыгмунта Кордыса. Выявілася, што ідзем у адной справе. Ужо ў прыёмнай стала нам ясна, што гміннае кіраўніцтва ні ў чым тут не вінаватае; мы хацелі выйсці, але войт нас не адпусціў.

— Не выйдзеце, — заявіў войт, — пакуль не дам вам ксеракопіі пісьма беластоцкай тэлекамунікацыі. Пакажыце яго іншым, хай грамадская думка даведаецца, хто людзей „выводзіць у маліны"!

Пакуль мы чакалі дакумента, войт спалучыўся з гайнаўскай тэлекамунікацыяй і прасіў, каб надарэмна не слалі яны сюды сваіх людзей, бо ніхто тут не робіць ніякіх спіскаў у справе тэлефонаў.

— Калі не перастанеце маніпуляваць гэтай справай, — сказаў на заканчэнне войт, — буду пратэставаць. Вазьму некалькі чалавек у аўтобус, не пашкадую свайго бензіну і павязу ў рэдакцыю, хай самі расказваюць...

**Тэлекамунікацыйныя хітрыкі**

У лісце чытаем такое:

„(...) W celu sprostania potrzebom społecznym na usługi telefoniczne proponujemy Państwu wspólną realizację telefonizacji w ramach gminnych, społecznych komitetów telefonizacji. (...) Na podstawie założeń techniczno-ekonomicznych udział poszczególnych członków SKT wyniósłby 1500 zł (...). W momencie zakończenia inwestycji TP SA zobowiązuje się do zawarcia odrębnych indywidualnych umów z wnioskodawcami o korzystaniu z abonamentu telefonicznego wraz ze sposobami rozliczenia wniesionego wkładu z uwzględnieniem kwoty podatku od towarów i usług (VAT). Wniesiony wkład ponad wpłatę taryfową (...) 400 zł plus 22% podatku zostanie abonentom rozliczony w postaci wszelkich usług telefonicznych i abonamentu telefonicznego".

Значыцца мне, пенсіянеру, трэба ўкласці каля 1000 зл. звыш нормы, каб ажыццявіць інвестыцыю тэлекамунікацыі. Кожны з зацікаўленых тэлефонам у кватэры можа і згадзіўся б на такое, але ў выпадку, калі б у Чаромсе фактычна трэба было дапамагчы ў „дабудове" тэлефоннай лініі. У гэтым канкрэтным выпадку ніякая „дабудова" не патрабуецца — толькі мадэрнізацыя.

У маім жа асабістым выпадку тэлефонная лінія праходзіць у адлегласці 10-15 метраў. Ці фактычна мне трэба заплаціць 1000 зл. за той кавалак кабеля? Таксама да справы ставяцца і іншыя чарамшукі, таму скажу тут адкрыта чыноўнікам тэлекамунікацыі: на вашы хітрыкі мы не пагаджаемся. Пачакаем таннейшага выканаўцу.

**Уладзімір Сідарук**

# Інтэрнэт у белліцэі

**З Яўгенам САЧКО, дырэктарам II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы гутарыць Аляксей Мароз.**



***— Камп'ютэры ў белліцэі ўжо здаўна. Як цяпер вучні карыстаюцца гэтай тэхнікай?***

— Маючы камп'ютэры, маглі мы ўвесці заняткі па інфарматыцы ў І і ІІ класы па 2 гадзіны ў тыдзень. Для многіх гэта першы кантакт з камп'ютэрам. У гэтым годзе наладзілі мы сувязі з фондам „Інтэрнэт для школ" і атрымалі бясплатна мадэм і магчымасць заснавання сваёй старонкі. За грошы Бацькоўскага камітэта купілі новы камп'ютэр, каб падключыць школу ў Інтэрнэт. Зараз у нас ужо свая старонка ў Інтэрнэце, дзе будзем інфармаваць пра нашу школу. Думаем купіць праекцыйную панэль і чытальнік, каб выкарыстоўваць Інтэрнэт у час школьных заняткаў. Мы здзіўлены, што калі звярнуліся за дапамогай у куплі камп'ютэра да былой нашай настаўніцы, бурмістра Ядвігі Рудзінскай-Патэюк, сустрэліся з адмовай. З'яўляемся першай школай у Гайнаўцы, якая падключылася ў Інтэрнэт. Інфармацыі пра нас будзе мець кожны жыхар свету. Хочам інфармаваць таксама і пра Гайнаўшчыну. Спачатку рабіць гэта будзе кружок Інтэрнэту, але хочам, каб пасля Інтэрнэт быў даступны кожнаму вучню школы на ўроках. Думаем наладзіць сувязі з іншымі школамі нацыянальных меншасцей у свеце.

***— Зараз у школах такі час, калі адбываюцца алімпіяды. Якія поспехі ў вучняў Гайнаўскага белліцэя?***

— Перад усім стараемся, каб вучні прымалі ўдзел у як найбольшай колькасці алімпіяд, каб сваіх сіл спрабавала самая здольная моладзь. Цяпер няма грошай на прадметныя кружкі і ўсё, што робім, робім бясплатна, для ідэі. Поспехі ёсць, хаця не такія, якіх чакаем. Калі Кураторыя падвяла вынікі мінулагодніх алімпіяд, наш белліцэй апынуўся на 4 месцы ў ваяводстве. Найбольшыя поспехі гэта 4 лаўрэаты Алімпіяды беларускай мовы — Аня Васілюк, Ева Аксянцюк, Іаанна Масайла і Ігар Іванюк, 4 фіналісты, фіналіст цэнтральнага этапу Алімпіяды рускай мовы — Аня Найбук. Аня Васілюк, якая апынулася на 3 месцы ў ваяводстве, перайшла ў фінальны этап экалагічнай Алімпіяды. Нашы вучні змагаліся на ваяводскім этапе ў хімічнай, геаграфічнай і біялагічнай алімпіядах. Ёсць таксама вялікія поспехі і ў спорце. Наша валейбольная каманда дабілася І месца ў І лізе нашага ваяводства.

***— У 1998 годзе Гайнаўскі белліцэй будзе святкаваць 50-годдзе сваёй працы. Ці да гэтага часу закончыцца пабудова гімнастычнай залы?***

— На падставе інфармацыяў, якія ў нас з Кураторыі, можна сказаць, што будуць грошы на заканчэнне інвестыцыі. У першую чаргу будзем парадкаваць плошчу вакол школы і рабіць агароджу. У справе басейна размаўляем цяпер з Ведамствам фізічнай культуры і спорту. Многа залежаць будзе ад уладаў горада, але бачым як яны ангажаваны ў такія справы, хаця б на прыкладзе Інтэрнэту.

***— Набліжаецца час выбараў, а Вы з'яўляецеся радным Гайнаўкі. Якую бачыце канцэпцыю ўключэння беларускага асяроддзя ў самаўрадавыя выбары?***

— У час самаўрадавых выбараў патрэбная кансалідацыя ўсіх беларускіх і праваслаўных арганізацыяў, каб стварыць вялікі выбарчы камітэт, які змог бы перамагчы на выбарах і ўвесці сваіх прадстаўнікоў у рады горада, павета і ваяводства. Пасля чатырох апошніх гадоў відаць выразна, што ніводная партыя ні палітычная плынь не дапамогуць, калі самі беларусы не возьмуць уладу ў свае рукі. Думаю, што ў беларускім асяроддзі, якое пражывае тут спакон вякоў ёсць людзі, якія пакіруюць працай горада і павета не горш, чым прадстаўнікі партый. Самаўрадавыя выбары — гэта зусім іншая справа чым выбары ў Сейм або Сенат. Аб тым, як дапамагаюць нам левыя ці правыя групоўкі паказвае падыход цяперашняй улады да фінансавай дапамогі нашай школе. Ніхто нам не дапаможа, калі самі сабе не дапаможам.

***— Дзякую за размову.***

**E-mail ліцэя: lo2hajn@waw.ids.edu.pl**

# Традыцыйна — „нет"

Нягледзячы на тое, хто кіруе польскай палітыкай у Варшаве і які яе напрамак рэалізуецца цэнтральнымі ўладамі, у Беластоку, прынамсі ў адной галіне, пануе поўная стабільнасць. Ідзе пра палітыку ў адносінах да беларускай меншасці. Папярэдняя мясцовая кааліцыя падаравала нам спачатку ўпаўнаважанага ваяводы па справах нацыянальных меншасцей, які ўсю сваю энергію траціў на тое, каб даказаць, што беларусаў тут вельмі мала, а можа нават зусім іх няма. Пасля філасофія памянялася.

Спасылаючыся на прысутнасць нацыянальных меншасцей на Беласточчыне, тутэйшыя посткамуністы і пээсэлаўцы дамагліся стварэння ў Беластоку тэлецэнтра, але зараз пасля яго ўзнікнення назначылі такое кіраўніцтва, якое ад самага пачатку не скрывала, што мае намер весці ў гэтай установе палітыку накшталт тае, якую ў семідзесятыя гады праводзіў тут таварыш Здзіслаў Кuроўскі. У колах ліберальнай апазіцыі такую палітычную філасофію называлі тады энда-камунізмам („энда" — endecja, абрэвіятура назвы даваеннай нацыяналістычнай партыі Narodowa Demokracja). Дырэктар Беластоцкага тэлебачання Казімеж Пуцілоўскі і яго намеснік па праграмных справах Войцех Варатынскі прыдумалі канцэпцыю гадзіннай перадачы для нацыянальных меншасцей на Беласточчыне і польскай меншасці ў Літве і Беларусі. Ёсць у гэтым праграмным блоку і пару хвілін для беларусаў. Аднак не нашмат менш часу маюць татары, якіх тут пражыве пару чалавек, рускія, украінцы ці немцы, якіх ад 1945 года ніхто тут не бачыў. Намаганні дзеячаў Беларускага саюза стварыць беларускую рэдакцыю, дзеля чаго былі падрыхтаваны кадры, сустрэліся з закідам, што імкнецца ён стварыць сваё нацыянальнае гета. Калі б нехта схацеў быць зласлівым, мог бы таксама параўнаць праграмны блок для нацыянальных меншасцей з блокам у канцэнтрацыйным лагеры, дзе замыкалі людзей усялякай нацыянальнасці. Але гэта было б толькі спаборніцтва ў дэмагогіі.

Пасля прайграных пээсэлам восенню мінулага года выбараў беластоцкі віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі прад'явіў новаму прэм'ер-міністру Бузку прапанову абмежаваць датацыю на рамонт Супрасльскага манастыра. Лічыў, бедалага, што тутэйшыя клерыкалы за гэта пакінуць яго на высокім крэсле. Салідарнікі Рыкоўскага прагналі, але грошы праваслаўным таксама забралі, хаця гэтыя апошнія так моцна стараліся быць добрымі палякамі і экуменістамі.

Ужо некалькі месяцаў маем у Беластоцкім ваяводстве новую эліту. Перамога салідарнікаў і нацыянал-клерыкальных партый пашырыла іх уладу ў горадзе Беластоку, якім кіруюць ужо чатыры гады, на цэлае ваяводства. На кіраўнічае месца ў Беластоцкім асяродку тэлебачання быў назначаны прэс-сакратар прэзідэнта горада Ежы Кулак, які раней, як гісторык і публіцыст, праслаўляў геройства „Бурага" і „Лупашкі". У Ваяводскай управе сталі працаваць людзі, якія гарантуюць працяг традыцыйнай палітыкі ў адносінах да беларусаў.

Восенню мінулага года Аддзяленне культуры Ваяводскай управы ў Беластоку, як штогоду, даслала ўсім культурным установам на тэрыторыі ваяводства фармуляры на гранты з мясцовага дзяржаўнага бюджэту. У мінулых гадах ваяводскія ўлады давалі нават нейкія дробныя сумы некаторым беларускім арганізацыям на падтрымку ладжаных імі мерапрыемстваў. Сёлета дырэктар Аддзялення грамадзянскіх спраў магістр Анджэй Уладыслаў Гаўкоўскі даслаў усім беларускім арганізацыям адказ, у якім „uprzejmie informuje", што Ваяводская ўправа ў Беластоку падтрымлівае толькі праекты, якія маюць міжнародны ці агульнапольскі характар. Гучыць гэта як чорны гумар, але гэта факт, які, між іншым, паказвае, што можа чакаць беларускую культуру ў самаўрадавым ваяводстве.

Калі прыглядзецца дакументам шасцідзесяцігадовай даўнасці, аказваецца, што, нягледзячы на час і дасведчанні мінулай эпохі, крэсавая адміністрацыя думае і дзейнічае паводле падобных прынцыпаў. Магчыма, што мясцовыя мандарыны неўзабаве навучацца нават спяваць паводле мелодыі, якую іграць ім будзе аркестр Еўрасаюза, але нішто не паказвае, каб знік катэхізіс Рамана Дмоўскага — галоўны ўказальнік іхняй місіі.

**Яўген Міранович**

# Навумчык хоча ў турму

Апазіцыянер Сяргей Навумчык, які знаходзіцца ў Злучаных Штатах у статусе палітычнага ўцекача, прапанаваў сябе заложнікам у абмен на свабоду зняволеных беларускімі ўладамі юнакоў Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца.

У прапанове С. Навумчыка, накіраванай у адміністрацыю беларускага прэзідэнта на імя Аляксандра Лукашэнкі, гаворыцца: „Сканцэнтраваўшы ў сваіх руках абсалютную ўладу, Вы трымаеце ў турмах маладых людзей, якія сваімі ўчынкамі спрабуюць уратаваць зняважаны і растаптаны Вамі на так званым „рэферэндуме" гонар беларускай нацыі. Трымаючы за кратамі Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца, Вы паводзіце сябе як тэрарыст, які захапіў дзяцей. Калі Вам патрэбны заложнікі, то я згодны ім быць. У абмен на вызваленне Шыдлоўскага і Севярынца я гатовы адсядзець у Вашай турме замест іх. Звяртаюся да Вас з ініцыятываю абмену. Гэты абмен павінен адбыцца ў прысутнасці прадстаўніка місіі АБСЕ і аднаго з акрэдытаваных у Мінску амбасадараў любой заходняй краіны".

Гэтая прапанова, па словах Навумчыка, не мае абмежаванняў па часе. На яго думку, „захоп безабаронных людзей ва ўласных інтарэсах, палітычных ці асабістых, у цывілізаваным свеце мае адну назву — тэрарызм. І прапанова захопніку іншай асобы ў абмен на вызваленне нявінных людзей не павінна ўспрымацца як прызнанне правоты гэтага захопніка".

**БелаПАН**

*„Свабода" № 56 (49), 13.05. 1998 г.*

# Палітвязняў на волю!

14 мая 1998 г. у Мінску прайшла палітычная акцыя, арганізаваная Беларускім народным фронтам. Акцыя праходзіла пад лозунгамі: „Свабоду палітвязням", „Свабоду Шыдлоўскаму і Севярынцу", „Абаронім нашы сымбалі, мову і культуру".

Яшчэ да пачатку акцыі „за расклейванне ўлётак на акцыі, якую дазволілі ўлады" быў схоплены 13-гадовы школьнік. Затрымаў хлопца член Беларускага патрыятычнага саюза моладзі (БПСМ), які сілай зацягнуў яго ў пастарунак. Увечары на плошчы Якуба Коласа сабралося каля 2000 чалавек, якія прайшліся шэсцем па цэнтральных вуліцах Мінска, скандзіруючы праваабарончыя і антыпрэзідэнцкія лозунгі.

На скверы Янкі Купалы адбыўся мітынг і канцэрт. У канцэрце ўзялі ўдзел вядомыя беларускія гурты „НРМ", „Уліс", „Новае неба", „Мясцовы час". На канцэрце прысутнічала каля 5000 чалавек, асноўную частку склала моладзь. Пасля акцыі міліцыя затрымала некалькі сябраў Маладога фронту.

На Беларусі стала звычкай забіраць маладых людзей пасля акцый, аднак калі раней іх забірала міліцыя, то зараз гэта робяць людзі ў цывільным і члены БПСМ.

**Ян Абадоўскі**

Найбольш неверагоднымі з'яўляюцца праўдзівыя падзеі...

# „Ратуйся, хто можа!"



У маі беластоцкі тэатр імя А. Вянгеркі паставіў новы спектакль у рэжысуры Януша Гамершміта — „Mayday" („Ратуйся, хто можа!") аўтарства сучаснага англійскага пісьменніка і акцёра Рэя Кунэя.

Дальбог, я заўсёды казала, што тым таксістам дык добра. Едуць куды і калі хочуць, перад нікім не мусяць тлумачыцца: праца! Англійскі таксіст Джон Сміт няшмат адрозніваўся ад іншых і адчуваў сябе настолькі свабодна, што мог спакойна дазволіць сабе на дзве жонкі і дзве хаты.

І ўсё было б шыта-крыта, калі б аднойчы пачуццё абавязку ў гэтага тыповага англічаніна не ўзяло верх над англійскай этыкай: Джон Сміт кінуўся на ратунак старушцы, якой ніколі не быў прадстаўлены. Але што было рабіць, калі на яе напалі два хулiганы. Замест падзякі, аднак, старая стукнула яго сумкай па галаве, у выніку чаго таксіст трапляе ў бальніцу, дзе памылілі яго два адрасы.

Ад гэтага часу ў зале амаль беспэрапынна стаіць смех. Засумавалі людзі па камедыі! Рэжысёр упэўнена вядзе нас па завулках фарсы. Зманіўшы адразу, Джон Сміт (Кшыштаф Лаўнічак) не толькі не можа выблытацца з маны, але заглыбляецца ў яе ўсё больш, беспардонна ўцягваючы іншых дзеючых асоб.

І ўжо няма тут нармальных людзей. Усё пераблыталася. Кожнаму прыпісваецца дзвяцыя, з якой ён не мае нічога супольнага. Невядома, каму тут верыць. А вінаваты ў гэтым толькі таксіст, ад якога ўсё і пачалося. І ўрэшце на фоне ўсіх гэтых ненармальнасцей справа Джона Сміта, які лавіраваў між дзвюма жонкамі, здаецца не такой ужо і страшнай. Бываюць рэчы горшыя! Зрэшты, і так найбольш неверагоднымі з'яўляюцца праўдзівыя падзеі.

Акцёры на сцэне пераўзыходзілі сябе. Не толькі Кшыштаф Лаўнічак двоіцца і троіцца на сцэне, добра іграюць свае ролі Дарота Радомская і Іаланта Скараходская (дзве жонкі Джона Сміта), Тадэуш Грахоўскі дасканалы ў ролі інспектара-небаракі, ды і іншыя акцёры іграюць цікава. А смех у зале не змаўкае.

Вельмі добра, што беластоцкі тэатр імя А. Вянгеркі паставіў гэту сучасную камедыю. Па колькасці наведвальнікаў відаць было, што такі погляд не адасоблены.

Спектакль будзе пастаўлены ў чэрвені ў днях 16—18 а гадзіне 10-ай, а 19 чэрвеня — а гадзіне 19-ай. Хто пойдзе, напэўна не пашкадуе.

**Ада Чачуга**

*Фота з архіва тэатра*

# Рысункі ў Музеі

14 мая 1998 года ў галерэйнай зале Беларускага музея ў Гайнаўцы адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі рысунку Збігнева Будзыньскага „Сітуацыі і структуры". Пра аўтара і яго рысункі расказваў ужо традыцыйна арганізатар выстаўкі спадар Віктар Кабац. Пасля гаварыў сам мастак. Госці хацелі больш ведаць пра рысункі, таму былі і пытанні да жывапісца.

Збігнеў Будзыньскі, дырэктар Падставовай школы н-р 2 у Гайнаўцы, гэта выпускнік Інстытута мастацкага выхавання Люблінскага універсітэта. Зараз у сваёй мастацкай працы займаецца рысункам, графікай і жывапісам. Яго апошнія выстаўкі былі ў Майданку, Любліне, Пулавах, Гайнаўскім доме культуры і Гарадской бібліятэцы. Выстаўка ў Музеі, якую можна будзе наведваць да канца мая, гэта 25 рысункаў выкананых белай і чорнай тушшу. Усе працы мастак рабіў асаблівай тэхнікай. Тушшу ставіў мноства кропак, якія стваралі кампазіцыю рысунка. Матывы прац — абстрактныя.

— У спадара Будзыньскага няма пастаянных тэмаў, — гаворыць Віктар Кабац. — Усе рысункі закранаюць асабістыя перажыванні аўтара, яго думкі і турботы. Нельга аднак аналізаваць, што аўтар хацеў паказаць, бо кожны наведвальнік выстаўкі можа ўспрыняць працы па-свойму. Форма рысунку з выкарыстаннем тушы вельмі арыгінальная і рэдка сустраканая.

— Усе мае працы без загалоўкаў, — заяўляе сам мастак. — Хацеў бы я, каб кожны глядач сам мог знайсці тое, што яго цікавіць. Я не рысую, а расказваю. Паколькі словы абмяжоўваюць, у мастацкіх працах гэтага няма. Кожны чалавек вольны ад усялякі структур, а ацэнка часта залежыць ад сітуацыі, у якой мы апынуліся.

Віктар Кабац спадзяецца, што на чарговай выстаўцы можна будзе пабачыць карціны Алега Кабзара з Бельска-Падляшскага.

**Аляксей Мароз**

# Не змарнаваў Ён жыцця



Нам, аўтарам гэтых радкоў, ніколі не прыйшлося з такой цяжкасцю на душы і болем у сэрцы выказваць свае думкі аб найбольш сумнай справе ў жыцці чалавека — аб смерці. Вядома, гэты сум і боль нарошчваюцца і павялічваюцца тады, калі смерць забірае блізкую і дарагую асобу. Так менавіта ёсць і ў гэтам выпадку. Паводле неразгаданых законаў жыцця і смерці 4 мая 1998 г. адышоў ад нас прыкладны хрысціянін, узорны муж і бацька, свядомы беларус, вядомы дзеяч на беларускай ніве СЯРГЕЙ ХАРКЕВІЧ.

Нарадзіўся Ён 7 мая 1932 года ў Сушчы ў сялянскай сям'і. Свой адукацыйны шлях пачаў у ваенным 1939 годзе і толькі пасля вызвалення ў 1944 годзе, у 12-гадовым узросце, працягваў вучобу ў II класе Пачатковай школы ў Бяндзюзе. У 1945 г. бацькі пераехалі ў Новае Ляўкова і там вучыўся Ён да шостага класа ўключна. Сёмы клас пачатковай адукацыі закончыў у Нараўцы і затым паступіў у Агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку. У 1953 годзе быў Ён прызваны ў войска і ў канцы службы здаў экзамены ў Вышэйшую школу сельскай гаспадаркі ў Варшаве. Аднак рашэнне бацькі, які лічыў, што сялянскаму сыну дастаткова сярэдняй адукацыі, вярнула Яго на вёску. Такім чынам 23-гадовы юнак замест пяра і кніжкі вымушаны быў узяць у свае рукі касу і плуг.

Аднак цяга да навукі, ведаў не дазволіла Яму застацца на бацькоўскай гаспадарцы. 1 жніўня 1958 года пачынае працаваць бухгалтарам у аддзеле асветы ў Гайнаўцы, а праз год працуе настаўнікам у Пачатковай школе ў Старым Ляўкове, што стала пачаткам ягонай настаўніцкай прафесійнай працы. Завочна закончыў у 1960 г. Педагагічны ліцэй у Бельску-Падляшскім і восенню гэтага ж года пачынае настаўнічаць у Арэшкаве.

У 1959 годзе ажаніўся Ён з Марыяй Малашэўскай з Юшкавага Груда і пераехаў жыць у Гайнаўку. Тут нарадзілася ім двое дзетак: у 1961 г. Іаанна, а ў 1964 г. Яраслаў.

У 1964 г. закончыў Ён Педагагічны інстытут у Пётркаве-Трыбунальскім і атрымаў дыплом настаўніка геаграфіі, затым працягваў вучобу на Універсітэце Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне, дзе атрымаў званне магістра геаграфіі. У 1967 г. пачынае працаваць настаўнікам геаграфіі ў Пачатковай школе н-р 2 у Гайнаўцы, адкуль адышоў на пенсію ў 1986 годзе. Як настаўнік унёс Ён вялікі ўклад у выхаванне маладога пакалення Гайнаўшчыны. На асаблівую ўвагу заслугоўвае факт, што з ліку настаўнікаў вылучаўся Ён высокай нацыянальнай свядомасцю. Імкнуўся рознымі формамі школьнай працы разбуджваць у вучняў беларускую нацыянальную свядомасць, прывіваць ім любоў да роднай мовы, гісторыі, культуры, традыцыі.

Сяргей Харкевіч у сваім жыцці многа месца адводзіў грамадскай дзейнасці. Здабыў Ён ліцэнзію экскурсавода, дзейнічаў у Таварыстве прыяцеляў дзяцей, Польскім турыстычна-краязнаўчым таварыстве, арганізаваў турыстычныя мерапрыемствы і прапагандаваў любімую Белавежскую пушчу. За ўсе прафесійныя і грамадскія дасягненні быў узнагароджаны Залатым і Сярэбраным крыжамі заслугі ды шматлікімі адзнакамі.

Аднак найбольш сваёй энергіі прысвяціў Ён культурна-асветніцкай дзейнасці ў беларускім руху. З 1967 г. быў членам Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Разам з іншымі настаўнікамі арганізаваў на Гайнаўшчыне гурткі БГКТ, самадзейныя калектывы, культурныя мерапрыемствы. Быў членам Галоўнага праўлення БГКТ і ўзначальваў Гайнаўскі аддзел Таварыства. Калі пачалася пабудова Беларускага музея ў Гайнаўцы, уключыўся Ён у працу Грамадскага камітэта пабудовы і ў арганізаванне падтрымкі для гэтай ініцыятывы. А калі прыйшлі палітычныя перамены ў нашай краіне, быў старшынёю Беларускага выбарчага камітэта ў 1990 г. Спрыяў і садзейнічаў правядзенню Фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, памагаў Брацтву праваслаўнай моладзі ў арганізаванні турыстычнага асяродка ў Дубінах і адпачынковага цэнтра ў Белавежы.

Немагчыма пералічыць усе дасягненні гэтага чалавека. Ведалі Яго многія людзі не толькі на Гайнаўшчыне ці Беласточчыне. А і Ён не забываў нікога, цікавіўся лёсам знаёмых, наведваў хворых дома і ў бальніцы. Аднак бязлітасная хвароба змагла нашага актывіста. Да дому Нябожчыка прыйшло многа людзей, а труну і пакой, у якім ляжаў Нябожчык, заслалі кветкі. Апошнюю ноч і цэлы дзень ішоў дождж. Відаць, шкада было развітвацца з зямным жыццём.

Абрад пахавання справіў у саборы Святой Тройцы а. Васіль Шклярук. Над магілай прамаўлялі Васіль Сакоўскі і ніжэйпадпісаны — Міхал Голуб.

Сваёй чалавечнасцю, ахвярнай працай і грамадскай дзейнасцю пакойны Сяргей Харкевіч пакінуў трывалы след і заслужыў вечную памяць!

Свае роздумы аб жыцці блізкага і дарагога нам сябра Сяргея Харкевіча хочам закончыць радкамі верша выдатнага рускага лірыка Сяргея Ясеніна, паэзіяй якога захапляўся Ён сам:

*Вечером синим, вечером лунным,*
*Был я когда-то красивым и юным.*
*Неиздержимо, неповторимо*
*Всё пролетело... дольше... мимо...*
*Сердце остыло, выцвели очи.*
*Синее счастье! Лунные ночи!*

**Аляксандр Іванюк,**
**Міхал Голуб**

# Зорка

**СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

# Усё іх цікавіць і займае



*IV „а" з настаўніцай Міраславай Маркевіч.* Фота Ганны Кандрацюк

Дзеці з IV „а" класа, што ў бельскай „тройцы" падрабязна ведаюць змест кожнай „Зоркі". Чытаюць яе не толькі на ўроках беларускай мовы. Некаторыя не расстаюцца з „Зоркай" нават у час канікул.

— Найбольш падабаюцца мне казкі ўсялякіх народаў, — кажа выдатнік **Міхась Прызовіч**. Міхасю найбольш запамяталіся „Вараныя яйкі" і „Суп з каменя".

— А мне, — кажа **Паўлік Міткоўскі**, — падабаюцца вершы Віктара Шведа.

**Кася Верамяюк** таксама паклонніца творчасці В. Шведа.

— Вершы, як „У час яды не размаўляй", не толькі смешныя, але і прыдатныя ў жыцці, — кажа Кася.

Пра вялікую цікавасць да творчасці гэтага паэта сведчыць і тое, што аж шэсць асоб (уключна з мінулымі гадамі) падрыхтавала вершы В. Шведа на дэкламатарскі конкурс „Роднае слова".

— Заўсёды чытаю артыкулы школьнікаў, — кажа **Адам Паўлючук**.

**Касі Бужынскай** падабаюцца малюнкі вучняў. А **Марце Дэмбоўскай**, **Магдаліне Пушкарэвіч**, **Касі Гліве** і **Крыстафору Вязоўскаму** — крыжаванкі. У час сустрэчы выявілася, што многія чацвёртакласнікі былі лаўрэатамі нашых конкурсаў.

— Трэба сказаць, што вучні гэтага класа вельмі актыўныя на ўроках, — кажа настаўніца беларускай мовы **Міраслава Маркевіч**. — Усе яны хацелі б адказваць, амаль усе хацелі б выступаць на дэкламатарскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы, добра чытаюць па-беларуску, часам лепш як шасцікласнікі ці сёмакласнікі.

— У нашым класе, — кажа **Марта Добаш**, — ёсць „Журавінкі". У дзіцячым беларускім калектыве „Журавінка", які вядзе дырэктар БДК **Сяргей Лукашук**, спяваюць: **Аніта Вяршко**, **Бэата Хіліманюк**, **Марта Неліпінская**, **Эвеліна Баена** і **Марта Добаш**.

**Аніта Вяршко** і **Бэата Хіліманюк** разам з **Касяй Бужынскай** ходзяць таксама на беларускі тэатральны гурток, які ў БДК вядзе **Альжбета Тамчук**. А **Марцін Кабылінскі** і **Якуб Дзмітрук** — на краязнаўчыя занядкі **Дарафея Фіёніка**.

— Важнай падзеяй года, — кажуць дзеці, — было адзначэнне Свята незалежнасці Беларусі. На ўрачыстасці ў гонар 25 Сакавіка многія чацвёртакласнікі выступілі як дэкламатары патрыятычных твораў.

Апошнім часам мае новыя сябры пабывалі на экскурсіях у Любліне, Казімежы-Дольным, Пулавах. Найбольш падабалася плаванне па Вісле параходам „Пасейдон" і жыццё ў гасцініцы.

У IV „а" 25 вучняў. Выхавацелькай класа з'яўляецца **Яўгенія Якубюк**.

— Наш клас, — кажуць дзеці, — мае самую вялікую сярэднюю па навучанні.

— Сапраўды, тут многа выдатнікаў, — адзначае Міраслава Маркевіч. — З гэтым класам прыемна праводзіць урокі беларускай мовы, бо ўсё іх цікавіць і займае.

**Зорка**

## *Вясёлы куточак*

— Колькі табе гадоў?

— Дзесяць. А табе?

— Мне таксама. Павінна мне ўжо быць адзінаццаць, але я цэлы апошні год хварэў.

* * *

Два чорныя коцікі шпацыруюць вечарам па дарозе. Раптам адзін з іх крычыць:

— Стой! Белая мыш перабегла нам дарогу. Рабі што хочаш, але я мяняю дарожку.

* * *

— Ці ведаеш, якая хуткасць святла?

— Не вельмі. Але ведаю, што святло мае вельмі вялікую хуткасць, бо раніцаю вельмі рана святлее.

* * *

Марак прыглядаецца, як агароднік кладзе ўгнаенне на трускалкі.

— Я, — гаворыць агародніку, — кладу на трускалкі смятану і гэта смакуе намнога больш. **(аг)**

Рыта Масайло

## *Вожык і воўк*

Сустрэліся вожык з ваўком,
не могуць разысціся,
бо ў ваўка раптам з пашчы
слінкі паліліся.

А вожык гэтым часам
скруціўся ў клубок,
яму нястрашны воўк той,
схаваў жа свой лабок.

Воўк доўга не чакаў тут
(амаль у зубах здабыча!) —
чаму ж не паабедаць,
потым — павесяліцца?

І воўк за справу ўзяўся,
ды раптам смак той знік.
Засеў у кусты і слініў
дзіравы свой язык.

Пара ваўкам да ведама давесці,
што не заўсёды меншы і слабейшы
пазволіць сябе з'есці
большаму і дужэйшаму.

# Беларускае навуковае таварыства

Беларускае навуковае таварыства ўзнікла ў Вільні ў 1918 годзе. Яго заснавальнікамі былі Вацлаў Ластоўскі, браты Іван і Антон Луцкевічы, Янка Станкевіч, Уладзіслаў Талочка. Як мэту сваёй дзейнасці БНТ ставіла развіццё даследаванняў роднай культуры, мовы, гісторыі беларускага народа і пашырэнне гэтых ведаў сярод грамадства. Таварыства арганізавала ў Вільні Беларускі музей, бібліятэку, выдавецтва, праводзіла пастаянныя курсы і лекцыі для беларускай моладзі па гісторыі і этнаграфіі Бацькаўшчыны, якая тады была падзелена паміж Польшчу і савецкую Расію. У рамках БНТ дзейнічалі тры даследчыцкія секцыі — гістарычная, літаратурна-мастацкая і краязнаўчая. Сябры Таварыства займаліся выпрацоўкай беларускай навуковай тэрміналогіі, перакладамі навуковай, педагагічнай і мастацкай літаратуры на беларускую мову, бралі ўдзел у міжнародных канферэнцыях. Членамі БНТ стала амаль уся міжваенная беларуская эліта ў Польшчы. Былі сярод іх камуністы, хрысціянска-дэмакратычныя дзеячы, сацыял-дэмакраты і нацыяналісты. На навуковай беларускай ніве існавала поўная дэмакратыя. Іх навуковыя працы змяшчаліся на старонках „Гадавіка Беларускага навуковага таварыства" і „Запісаў Беларускага навуковага таварыства". Большасць палітычных і грамадскіх дзеячаў была тады людзьмі высокага інтэлектуальнага і маральнага ўзроўню. Членамі БНТ былі, апрача ўспомненых заснавальнікаў, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Лагіновіч, Максім Гарэцкі, Ігнат Дварчанін, Аркадзь Смоліч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Рыгор Шырма, Барыс Кіт, Францішак Умястоўскі, Лявон Дубейкаўскі, Вацлаў Іваноўскі, Мікола Ільяшэвіч. Таварыства спыніла сваю дзейнасць у верасні 1939 года, пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза.

# Разумны казачнік

***(карэльская казка)***

Жыў у даўнія часы адзін цар. І да таго ён любіў казкі, што дня не мог правесці без іх. А ці лёгка было расказваць таму цару казкі, калі іх усе яму пераказалі, а ён іх праслухаў! Ды мала таго: ты яму не проста казку раскажы, а кожны раз новую, пра якую ён і чуць не чуў! А раскажаш старую, дык абавязкова галаву табе адсякуць! Такое было яго рашэнне, такі быў яго загад! На тое ён і цар. Ну, і ляцелі ў яго дзяржаве галовы з плячэй, таму што не было каму расказаць казку, якую б цар не ведаў.

Вось і настаў дзень, калі ніхто не згадзіўся да цара пайсці, ніхто не рашыўся дзеля царскай прыхамаці галаву зламажыць.

Забегалі міністры, замітусіліся слугі. А цар крычыць:

— Калі не знойдзеце казачніка — усім галовы паздымаю!

Цяпер зразумела, чаго міністры забегалі?

Аднак бегай ці не бегай — ахвотнікаў няма дарэмна сваю галаву аддаць. Не ідзе ніхто, і ўвесь сказ.

Раптам, уявіце, знайшоўся адзін маладзец, адчайная галава! Сам напрасіўся.

— Давайце, — кажа, — я пайду да цара!

Узяў ды і пайшоў.

Цар пасадзіў яго і кажа:

— Расказвай!

А маладзец пачынае:

— Было такое ў часы даўнія, калі мой дзед і твой дзед разам адзін хлеў будавалі, ды такі вялікі, што вавёрка па ім з канца ў канец за цэлы дзень ледзь даскакаць магла. Вось гэта быў хлеў дык хлеў!.. Не чуў?

— Не чуў, — сказаў цар.

— Ну, калі не чуў, — сказаў маладзец, — дык і спі, а я заўтра прыйду.

І пайшоў.

На другі дзень прыходзіць. Цар яму сам крэсла падстаўляе, кажа:

— Расказвай казку!

А той пачынае:

— Помніш, які хлеў мой дзед і твой дзед пабудавалі? Дык вось, выгадавалі яны ў тым хляве быка, ды такога, што ластаўцы, каб з аднаго яго рога на другі перабрацца, цэлы дзень ляцець трэба было! Пра гэту чуў?

— Не, не чуў!

— Ну, а калі і гэтую казку не чуў, — кажа маладзец смела, — тады кладзіся спаць, а я заўтра прыйду.

Пайшоў і зноў галаву цэлую панёс.

Ляжыць цар, з боку на бок варочаецца, думае: „Вось жа разумны, умее прыдумляць! Але і я не лыкам шыты: розуму не хопіць — хітрасцю адолею. Прычаплюся, і ўсё адно адсякуць табе галаву!”

Раніцай склікаў цар сваіх міністраў і кажа ім:

— Прыходзьце вечарам казкі слухаць. І запомніце: што гэты малойчык ні скажа, вы на тое дружна кажыце, што, маўляў, ужо чулі.

Прыйшоў маладзец трэці раз. Цар яму крэсла насустрач выносіць. Маладзец і кажа:

— Калі твой бацька і мой бацька па суседству царавалі, твой бацька ў майго бацькі пазычыў золата: сорак бочак тым золатам напоўнілі, і кожная бочка — укоптур! Вось колькі золата ў іх было... Чулі?

А міністры царскі загад помнілі і закрычалі:

— Чулі!

— Ну, калі чулі, — сказаў маладзец, — то тады прыйшоў час — аддавай, цар, даўгі!

Што рабіць? Тут ужо не да пакарання смерцю, не да галавы, сорам вунь які — золата ўзяў і не аддае! Давялося цару раскашэліцца!

Пачалі золата збіраць, усё сабралі, усю казну чысценька падмялі, і назбіралася ўсяго адна бочка.

Ну, ды наш маладзец не сквапны. Яму і адной бочкі хапіла. Забраў ён золата і паехаў. А цар з таго часу асцерагаўся галовы секчы! І казкі слухаў, ды яшчэ дзякуй казаў.

Вось так яно!



*Малюнак Ані БАЧЫНСКАЙ і Монікі ЯКІМЮК*

**Віктар Шніп**

## *Загадкі*

У гародзе пад кустом
Незвычайны вырас дом.
Трэба ратаваць гарод,
Бо жыве ў тым доме... (крот)

* * *

Яго пакінуў гаспадар
І сам паехаў на базар.
Ад дзвярэй ён ні на крок,
Бо завуць яго... (замок)



*VIII клас ПШ у Старым Корніне з настаўнікам Васілём Сегенем.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Цікавая алімпіяда

Распачалася І Агульнапольская алімпіяда на тэму ведаў у галіне AIDS і HIV. Нядаўна ў нашай школе адбыліся школьныя элімінацыі.

Удзел у конкурсе мог прыняць кожны вучань, хто толькі хацеў. У асноўным былі гэта аднак вучні сёмых і восьмых класаў. З аднаго толькі нашага класа ў конкурсе змагаліся дзевяць асоб.

Бадай, нікому сёння ўжо не трэба паўтараць, якой страшнай хваробай з'яўляецца СНІД (AIDS). Гэта хвароба канца XX стагоддзя паявілася адносна нядаўна і стала пагрозай для чалавецтва.

Распаўсюджваецца яна найчасцей шляхам палавых зносін або праз кроў. Часамі людзі могуць заразіцца нават тады, калі ім робяць пераліванне крыві, але найбольш захворванняў здараецца сярод наркаманаў, якія пераносяць хваробу, робячы сабе ўколы бруднымі іголкамі, ужыванымі ўжо іншымі людзьмі.

Хвароба гэтая косіць людзей, як калісьці чума. На жаль, пакуль што не вынайдзены ніякія канкрэтныя лекі ад СНІДу. Дык тым больш важна ведаць усё пра гэту хваробу ўключна з прафілактыкай.

Да конкурсу давялося рыхтавацца добрых некалькі дзён. Я чытала розныя кніжкі, брашуры, каб паглыбіць свае веды ў гэтай галіне. І не дарма! Пытанні былі даволі цяжкія, складаныя.

З дваццаці асоб, якія ўзялі ўдзел у школьных элімінацыях, на гарадскі конкурс вылучылі тры асобы, у тым ліку і мяне.

**Адрыяна СЕМЯНЮК,**
**вуч. 7 „а” класа школы н-р 9**
**у Беластоку**

# Польска-беларуская крыжаванка № 22

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Twarz konia | ▼ | Rzepak / Żagiel | Kochanek / Wiatrołom | ▼ | Wesz | ▼ | Rząd |
| Statek | | | ▶ ▼ | | ▼ | | |
| ▶ | | ▼ | | | | | 📖 |
| Proszek ▶ | | | | | | | |
| ▶ | | | | | Łapiduch | | 📖 |
| Zesłanie | ▶ | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 18:**

Кіт, алёс, сіла, ліст, кураслепка, паказ, кут, суп, ліра, лак, краса, але, ліпа, лёс, стан.

Узнагароды, **каляровыя фламастэры**, выйгралі: **Наталля Казлоўская і Бажэна Кананюк** з Новага Беразова, **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага і **Бажэна Андраюк** з Істока. Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы” або чакаць на іх у сваёй школе.



Талон „Зоркі” № 22
31.05.1998

# Пад шмат'яруснай буслянкай

Буслова сям'я селіцца на гэтым доме ад пакаленняў. І, пэўна, добра ім тут, у Макаўцы.

Вось іду па вёсцы, дыхаю вясной. Вёска як вёска — акуратная, чыстая. Людзі жывуць, працуюць, пенсіянеры корпаюцца ў агародчыках. Перад дамамі дрэўцы ў квецені, памаляваныя платы, сеткі. Тэхніка на вуліцы і падворках. Мінаю аграмадныя трансфарматарныя слупы электраліній. Аж гудзе ад іх моц кілаватаў. А за ім, гляджу, вачам не веру: старадаўняя хаціна. Не, не хацінка, а сапраўдны вялікі вясковы колісьні дом, хата, крытая саломай. Думаю, скансэн нейкі, ці што? Салома на страсе не такая новая, праўда, але шыбы ў вокнах чыстыя, кветачкі... І — дым з коміна! Вось, думаю, пад Нарвай так турыстаў звабіць хочуць. Ну, як сюды не зойдзеш. А, можа, тут нікога няма, а паляць у печы так сабе, каб шкоднікаў выпалашыць, сцены асушыць?.. Ну, увайду.

Набраўшы духу ў грудзі, нямею. На зэдліку ў кухні сядзіць гаспадыня. Сухашчавая, з выгляду бабулька, але з жывымі вачыма, стройная. Стол накрыты сучаснай цыратай, але наўкола — жывая даўніна! Чорныя бэлькі, мэбля, ток. Старадаўняя высачэзная шафа, клееная печ... А за сталом — ні то ляжыць, ні сядзіць нерухомы старэча, склаўшы рукі на грудзях. Не дыхае, не варушыцца... Хіба ж не нябожчык?.. Вітаюся з гаспадыняй, няўпэўнена паглядаючы на мужчыну з васковым тварам.

Жывуць тут людзі, не можа быць інакш.

Пачынаю гутарку ад фотаздымка, відаць жа ў маёй руцэ апарат. Толькі каб не падумалі, што я тут нейкі скансэн убачыла...

— Я тут выпадкова... Я вашу буслянку здымала...

— О, у нас у Макаўцы боцькі селяцца ахвотна, — кажа Станіслава Пагажэльская. — На слупах тэлефонных, на комінах. Мы мелі вось тут клопат — страху трэба было мяняць. А як жа яе скінеш — там жа боцькі жывуць! А гняздо шматпаверхове! Суседзі раілі буслянку зменшыць, бо яшчэ нам страха заваліцца. Але вось, бачыце, — і мы жывем, і боцькі жывуць. Немаладыя.

І хата вяковая, мае больш за 130 гадоў: у чорнай сені выцарапана дата: 1863 год.

— Усё чорна тут у нас. Ад пары. Пашаравала б я якасьці ўсё гэта, але, вось, галаву не падымеш. Сынавая прыедзе час ад часу, але дзе там ёй да мяне! Дзеці ж у яе малыя. А я ж 19 *рочнік*, сілы не маю. А шлюб мы з Юзафам бралі ў 1953, я з Ялоўскага прыхода. Вось, сіла ў нас не тая, Юзаф сляпы, нядужы. Быццам яму і не баліць, але слабасць вялікую адчувае. Адрабіліся мы за жыццё. А вось я маладою ў Нямеччыне была, і нічога не атрымала за тое. А пасля вызвалення нас яшчэ былі ў Расею вывезлі. Быў час, калі людзі ўсё гэта афармлялі, гэтыя кампенсацыі, але я ў той час як несвая была, хворая, нават у касцёл не змагла схадзіць. Ні гаварылася мне, ні плакалася. Бывае ж такое са старым чалавекам, ведаеце. Калі хто не параіць, не паможа, не завядзе, не пакажа, то сам не аформіш... І не склала я папераў, як усе складалі. А я ў Кёнігсбергу тры гады адрабіла. Трох нас там было — яны дасталі кампенсацыі, потым успамогу мелі. Пасля я слала тыя паперы, але сведкі паўміралі...

... Вось, памятаю, як у Беластоку ў арбайтсамце далі літару мне **Р**. Беларусы не насілі такога знаку, мелі свой Беларускі Камітэт у Беластоку. І яны, нават у няволі, хадзілі як людзі, непазначаныя. У Кёнігсбергу ў кіно маглі схадзіць, сесць у трамвай, ніхто на іх не азіраўся. Я ў баўэра рабіла... Ну так, хто позна прыходзіць, сам сабе шкодзіць... Колькі ж тых, хто памятае той час, памерла! Не паспелі нават пацешыцца тою кампенсацыяй за змарнаванае здароўе! Ну, і я вось так страціла надзею... Знаёмая з Анцут кажа мне зноў пісаць у тую Варшаву, ды мне ўжо ўсяго адхацелася! І сын знеахвоціўся, бо крыху каля гэтага хадзіў. Вось прыязджала з Беларусі кабета, што там з намі была, то ёй за тую нявольную службу цяпер маркамі заплацілі. Ну, што зробіш, да Бога на скаргу не пойдзеш, бо так далёка не дойдзеш.



— А рамонт хаткі не збіраецеся рабіць? Цяжкавата хіба так вам тут жывецца?

— Ат, каб зрабіць рамонт, трэба мець кучу грошай. Бачыце, як мой муж выглядае, а сын працуе і працы трымацца мусіць, бо ведаеце, як цяпер работу хутка можна страціць! Матэрыял быў бы, бо ж мы калісь лес пасадзілі, то і вырас ён, на кроквы было б. Але і дах трэба было б скінуць, і новае шмат што зрабіць. Вокны памяняць, бо падвойных не можам уставіць, холадна. Юзаф сляпы, трынаццаты *рочнік* і, я, хоць вачэй двое маю, свет ужо бачу як за імглой. Сілы няма. Вядро вады чуць прывалаку. Усё жыццё так рабіла, ад начы да начы, адрабілася. А ні пралькі, ні халадзільніка ў мяне не было. Жывем як за караля Цьвека. Быў у нас тэлевізар, і то згарэў жывым агнём. Сын хацеў ладзіць, прывезці новы, ды кажу не, бо няма там што цяпер глядзець. Калісь то хоць фільмы прыгожыя давалі. Ну, свет як за імглой...

Села пані Станіслава на куфар свой чорны, пасажны, салідны. І шафа ад бацькі, аж пад бэльку, ледзь яе ўвалаклі былі ў 53-м, бо ж старамодная мэбля не раскладваецца, як цяперашняя. Калі б яе адмаляваць, кажа гаспадыня, была б як новая.

— Прыходзіць раз адзін і пытаецца, ці не дазволю яму здымак ля нашай хаты зрабіць. А нашто яму, ці ў газету, ці ў тэлевізію? А так, кажа, на памятку. З таксоўкі яму здымак рабілі. А ён мусі падпіты быў, ці што. Іншы мне зрабіў паціхінутку, з паляройда, як я ў гародзе рабіла, і падарыў мне картачку. Што ім так цікава?

Суседзі кажуць паціху, што Пагажэльскія атрымалі вялізную спадчыну з Амерыкі. Але не трымаюць нічога тутака — гэта інфармацыя для зайздроснікаў і зладзюгаў!

Што ім тут больш трэба, у Макаўцы?

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*

---

Якія мы людзі

# Блажэй

Першага чэрвеня — Міжнародны дзень дзіцяці. Паколькі гэтае свята пакуль што яшчэ не ліквідавалі, варта памятаць прынамсі ў гэты дзень, што **усе дзеці — нашы**.

* * *

Вячэрні цягнік, які стаяў на Цэнтральным вакзале ў Варшаве, ужо амаль кранаўся ў напрамку Беластока, калі ў наша купэ даволі малады мужчына ў джынсах пасадзіў жанчыну з дзіцём гадоў двух-трох. Якраз былі яшчэ свабодныя два месцы, і хлопчык мог сядзець асобна. Мужчына загадаў сыну слухаць маму, цмокнуў „службовым" пацалункам жонку ў шчаку і хуценька выйшаў з вагона.

Забі мяне, а я бачыла ў яго вачах задавальненне, што вось нарэшце ён застанецца адзін у Варшаве. Мо ўжо і на гэты вечар запланаваў сабе „заняткі", каб прынамсі пабыць сярод людзей, думалася мне. А мо ўжо і бабу дзе запрасіў дахаты. Ну, і гад! Адправіў жонку і цешыцца... Нейкая незразумелая бабская салідарнасць узяла верх над маімі пачуццямі і я, з сімпатыяй і нейкім жалем, пазірала на гэту жанчыну і харошанькае дзіцятка.

Аднак жа кабетка не толькі не глянула ў мой бок, а нават адвярнулася. Яна наогул не глядзела на нікога, хаця ў купэ, апрача мяне, сядзела яшчэ адна жанчына і два мужчыны. Здавалася, што яе поўнасцю паглынула дзіця.

Я заплюшчыла вочы і пачала драмаць. Іншыя заснулі адразу, як толькі кранууся цягнік. Ніхто не раскладаў яды, як гэта часта бывае, калі рушыць лакаматыў, — відаць, усе былі з Варшавы і павячэралі дома.

Раптам страшэнны віск абудзіў усіх пасажыраў нашага купэ. „Маўчы! Заткні морду!" — затыкаючы сыну рот, жанчына выкручвала галоўку малога так, што я перапужалася, каб у яго там штосьці не хруснула.

Хлопчык, які стаяў побач з маці, умомант змоўк, а яна кінула яго са злосцю на сядзенне, каб не замінаў. Усе глядзелі на маладую маці з недаўменнем. Маўчалі. Кожны рабіў выгляд, што нічога не бачыў.

Праз нейкі момант хлопчык пачаў ціхенька-ціхенька плакаць, а мне здалося, што гэта скавыча маленькі шчанючок. „Мама! Блажэй плача!" — глянуў ён на маці па-сабачаму адданымі вачыма. „Ціха! Мама пашкадуе", — і жанчына прытуліла хлопца да сябе.

Толькі я ўладкавалася зручней, бо меркавала, што ўжо канец сенсацыям на гэты вечар і можа будзе крыху пакою, як маці кінулася ні з таго, ні з сяго, быццам каршун, на хлопца і пачала яго шчыпаць, скінула на падлогу і валакла па ёй. Людзі сядзелі з каменнымі тварамі і не ўмешваліся. Мяне таксама „замуравала".

Ізноў хлопец пачаў ціхенька падвываць, паўтараючы: „Мама! Блажэй плача!" У іншай сітуацыі я б напэўна падумала, што малому далі такое арыгінальнае старапольскае імя: Блажэй, але ў той момант я ніяк не магла сканцэнтравацца ад жудасці.

Усё ў мяне ўнутры кіпяцілася. Хацелася ўзяць яго на рукі гэтага хлопчыка, пагладзіць яго па галоўцы, прытуліць да сябе, суцішыць, выцерці яму слёзы.

Яго мама мела на гэта права і зноў прытуліла хлопца, „даруючы" яму яго „віну".

У чым ён быў вінаваты? Што ў яго бацькі астылі пачуцці да маці? Што ў маці ад нерваў свярбяць рукі, а нікога іншага, на кім яна магла б спагнаць сваю злосць, няма?..

Нешта ненармальнае можна было адчуць у гэтай кабеце, нестарой, нябрыдкай і даволі стройнай.

І так яна без найменшай прычыны то біла хлопца, даслоўна, як садыстка, здзекавалася над ім, то шкадавала яго.

А беднае дзіцятка сядзела спакойна, не турбуючы нікога, толькі спаглядаючы, як сабачка, на сваю маму. Другая б узяла дзіця на рукі, пагладзіла яго па галоўцы, па шчочках і ручках, па ножках і попцы — і яно б, суцішанае і шчаслівае ад блізкасці маці, заснула. Была ноч, а дзеці ўначы павінны спаць.

Не, яна не магла даравацць хлопцу. Але чаго? Ён не прасіў ні піць, ні есці, ні нават сіку не хацеў. За што яна так скубала яго?!

Я думала-перадумала ўсё. Можа мужык ёй здраджваў... Знерваваная. Грошай мала. І куды яны едуць?.. Мо да яе бацькоў... Думкі без патрэбы лезлі мне ў галаву, хаця і пра свае справы варта было б падумаць.

Жанчына ізноў тузанула хлопца, свайго сынка, і... завяла старую мелодыю: шчыпала яго, біла па твары, па галаве, кідала на канапу, дзякуй Богу, што хоць яна была мяккая. А хлопец скавытаў, паведамляў, што „Блажэй плача", — і тады яна яго **шкадавала**. І так было разоў сем, да самага Беластока.

Я ўсё ж не вытрымала. Не кожнаму ж удалося б у такой нязвыклай сітуацыі застацца культурным чалавекам і не ўмяшацца. Калі жанчына пачала выкручваць дзіцяці нос, я параіла ёй звярнуцца да псіхіятра, а не выхоўваць дзіця. „Маё дзіця — што хачу, тое і раблю!" — гаркнула мама-кат і ў чарговы раз прытуліла сына да сябе. Я бачыла яе шалёныя, вялізныя вочы, колеру якіх не было відаць за расшыранымі, чорнымі зрэнкамі, і была ўпэўнена, што было ёй добра: біць, а тады шкадаваць.

Усе маўчалі. Ніхто не падтрымаў мяне. А мне падумалася, што яе муж, пэўна, нездарма так цешыўся, што хоць на крыху вызваліцца ад гэтага пекла.

**Ада Чачуга**

# Асвячэнне храма на Святой Гары



[1 ☞ працяг]
абрадам, частку часу свайго там прабывання прысвяціў я абыходу наваколля Святой Гары. Ад асфальтавай шашы, якая даходзіць да вёскі Шумілаўка, да Гары вядуць дзве пясчаныя дарогі амаль кіламетравай даўжыні кожная. Прайшоўся я ўздоўж іх. Самаходамі застаўлены абодва бакі адной з іх і адзін бок другой, але толькі таму, што маладыя людзі на яе не прапускалі. Затое па першай дарозе спозненыя аўтапаломнікі прабіваліся на Гару. Калі б у тых самаходах знаходзіліся людзі, якім цяжка хадзіць... Але ж сядзелі ў іх вельмі набожныя паны і панюсі, у якіх самаход на тое, каб у сам храм заехаць; як у бар Макданальда. Не ўсе тыя самаходы ціхія — былі і такія, што стваралі асаблівы акампанемент малітвам. А самаходаў тых, карабкаючыхся на Святую Гару — сотні. Ці ўстоіць яна пад імі? А калі не ўстоіць, тады што нам астанецца? Былі і другія, альтэрнатыўныя віды транспарту: адна конная падвода і адзін трактар без... тармазоў.

* * *

Сам жа храм Праабражэння Гасподняга сваім выглядам нагадвае сучасны суперсанічны самалёт, які быццам паднімаўся да ўзлёту, распасціраючы крылы над *мірам*, быццам Анёл-Ахоўнік, які ахоўвае „містычнае цела Праваслаўнай царквы".

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота Яраслава ХАРКЕВІЧА*

# Зялёныя світкі

*На зелянец вясны канец* — кажуць у народзе. Гэтае свята выпадае сем тыдняў пасля Вялікадня. Часта называюць яго Сёмухай або Зялёнымі святкамі. У праваслаўнай царкве вядомае яно як Тройца.

У святкаванні Зелянца спалучаюцца дахрысціянскія і хрысціянскія абрады. Яшчэ і сёння ў першы дзень Тройцы ў царкве асвячаюцца лугавыя і палявыя зёлкі, каб пасля на працягу года абкаджваць імі нябожчыкаў, калі кладзецца іх у труну.

У дахрысціянскія часы на Зелянец славілі зеляніну, продкаў і канец дзявоцтва. Менавіта ў гэтую пару найчасцей выдавалі дзяўчат замуж. Людзі спалучалі поры года з этапамі чалавечага жыцця. Позняя вясна ўяўляла дарослую да замужжа і мацярынства жанчыну. Апрача гэтага пачыналіся летнія палявыя працы і дадатковая сіла ў гаспадарцы мела вялікае значэнне.

У асноўным аднак Зялёныя святкі адводзіліся культу расліннага свету.

Яшчэ ў 70-я гады на Беласточчыне паўсюдна прыбіралі і ўпрыгожвалі хаты ды царквы галінкамі бярозы, аеру, дрэўцамі ліпы або дуба. Пра старажытны абрад Куста піша ў „Белай Вязі" Георгій Валкавыцкі. У Белавежы „на Тройцу дзяўчаты выбіралі за Калакусту вясковую красуню. Адзявалі яе ў зялёны строй з кляновых і ліпавых галінак, што было не пазнаць ці то дзяўчына, ці куст і вадзілі Калакусту — каля куста. Надзея Руско падспявае:

*Калакуста, калакуста:*
*Сачавіца, расці густа!*
*Ой, вясна, вясна!*
*Што ты нам прынясла?*
*Дзяўчаткам па вяночку,*
*Хлопчыкам па кіёчку.*

Абрад выконвалі незамужнія дзяўчаты. Нагадваў ён калядаванне або велікодную валоку. У кустывых песнях дзяўчаты славілі прыроду, гаспадара, гаспадыню, жадалі ім добрага здароўя і добрага замужжа дочкам. За гэта гаспадары частавалі ядой.

На заканчэнне абраду разрывалі куст. Усе галінкі і лісце бралі з сабой і захоўвалі. Людзі верылі, што галінкі Куста засцерагаюць ад хвароб, між іншым, лечаць скулы.

Сляды старажытных, дахрысціянскіх абрадаў сустрэла я зусім нядаўна ў Такарах. Зараз яны асэнсоўваюцца як хрысціянскія сімвалы і выдатна ажыўляюць царкоўны абрад. Трэці дзень Тройцы ў Такарах называюць Зялёнымі святкамі. Багаслужба ў лясной царкоўцы Прасвятой Дзевы Марыі канчаецца працэсіяй (хрэсным ходам). На пачатку з іконай Божай Маці ідуць дзявіцы. Прысутныя на свяце жанчыны становяцца на калені так, каб ікона прайшла над імі. Паводле павер'я такая практыка ратуе ад галаўнога болю і жаночых хвароб. Хрэсны ход спыняецца ля ўпрыгожанага зялёнымі галінкамі ліпы і бярозы калодзежа — крыніцы са святой вадой. Пасля малітвы і асвячэння вады людзі ломяць галінкі. Як паясніла жыхарка Сямятыч, такія галінкі выдатна засцерагаюць ад дарожных выпадкаў.

Рэдка сустрэнеце сёння чалавека, які ведае прызначэнне, асвячаных на Зелянец зёлак. Беластачанка, маці майго рэдакцыйнага сябры, падслухала пад царквой як старэйшая кабета навучала маладзіцу. Рэкамендавала яна тыя зёлкі як цудоўны лек на эратычнае ўзбуджэнне.

— Я як свайму напару, — навучала сеніёрка, — то ён хаця і старэча, усю ноч бушуе.

**Г. К.**

# Люд Лукашэнкаў

**Адгалоскі**

*Адступлю ў прыстанішча Уладыкі,*
*Цара і Бога чалавеку*
*Перад злом нашэптаў і нагавораў,*
*Якія шушукаюць у чалавечыя*
*грудзі —*
*Перад джынам і перад людзьмі.*
*(Каран, 114 с.)*

У 20-м нумары нашага тыднёвіка Pan Wiktor Owsiejczuk напісаў („Wokół pomnika"), што „w «Niwie» pojawili się oponenci tego Pomnika (праваслаўным жыхарам Беласточчыны — А. В.) i podnoszą wrzawę". Паколькі ў „Ніве" тую „wrzawę" ўзняў, здаецца, толькі я, дык адчуваю сябе зноў выкліканым да адказу, тым больш, што далей Pan Wiktor Owsiejczuk піша яшчэ нават пра „lanie żółci nienawiści", не надта турбуючыся паказаць, хто і якім чынам такое робіць. Пішучы пра Польшчу „Takie państwo musi zginąć", згаданаму аўтару здаецца, што не робіць гэтага ён, ну бо ж гэтакае пісанне „jest zgodne z prawem"...

Далей аўтар дае прыклад своеасаблівай логікі: „I temu, by nie dzielić społeczności na swoich i cudzych, będzie służył niniejszy Pomnik" — помнік, які акурат толькі „нашым", а не „чужым", мае „nie dzielić"...

Памерлых мы не вернем да жыцця. Падніме іх толькі Усявышні на Страшны суд: увесь люд Божы, — *il popolo d'Iddio*, за які моляцца напр. італьянскія каталіцкія святары, а не толькі *православных христиан*, за якіх моляцца нашы беластоцкія праваслаўныя. Бо вернікаў на каталікаў і праваслаўных не дзялілі Нябёсы — падзяліла іх грызня між візантыйскім імператарам ды падпарадкаваным яму канстанцінопальскім патрыярхам і рымскім епіскапам за ўладу не над душамі, а над мускулістымі целамі здольнымі стварыць прыбавачную вартасць (матэрыяльнае багацце). Брэсцкая унія таксама была створана пры падтрымцы імперскай тады Варшавы, а развязана пры падтрымцы імперскага Пецярбурга. А простыя вернікі толькі пакутавалі ад усяго гэтага, у тым ліку і ў той час, да якога прымеркаваны задуманы ў Беластоку помнік. І калі такі ўзводзіць, дык усім пакутнікам, не прыглядаючыся, які дэспат закабаліў іхных продкаў у тое ці іншае падданства. Гэта „jest zgodne z prawem" і напэўна не з'яўляецца „niemoralnym".

„Niemoralnym" Pan Wiktor Owsiejczuk называе „bieganie pod konsulat Białorusi palić portret prezydenta" (Лукашэнкі — А. В.). Усіх праваслаўных прыхільнікаў прэзідэнта Лукашэнкі паведамляю, што на апошняй сустрэчы ў вярхах лідэраў Саюза Беларусі і Расіі заждаў ён вяртання савецкай сімволікі і заявіў, што калі гэтага не зробіць Расія, дык гэта зробіць ён сам у Беларусі. Мае шаноўныя аднаверніі павінны былі ўжо даведацца, што найбольшыя бадай за ўсю гісторыю ганенні на праваслаўе адбыліся ў Савецкім Саюзе, калі пры антырэлігійнай „wrzawie" насаджвалася савецкая сімволіка. Партрэт Лукашэнкі, гэта пакуль яшчэ не ікона і паленне яго „nie jest niezgodne z prawem" і адбылося не таму, што ён быў дэмакратычна выбраны, толькі таму, што ён пасля таго дэмакратычнага выбару адцураўся ад дэмакратычных правіл. Лукашэнку крыху падабаецца Гітлер, які таксама быў дэмакратычна выбраны, а пасля... Пасля Гітлер адкрыта праводзіў канфесійныя па сутнасці ганенні, у тым ліку і на акупаванай яго *воінствам* Беласточчыне. Не датычылі яны **яшчэ** праваслаўных, дык можа „moralnie" нам забываць пра сутнасць дыктатуры і яе злавесныя магчымасці, з канфесійным генацыдам уключна?..

Вяртаючыся да помніка: можа ён быць і адным толькі праваслаўным. Пры Саборы, не паднімаючы „wrzawy", можна паставіць праваслаўны крыж у памяць пакутнікаў, перад якім і малітву за пакойных можна было б згаварыць. Было б гэта „zgodnie z prawem". Таксама „zgodnie z prawem", а нават „moralnie", мог бы гэта быць і абеліск на пазасаборным скверы з, калі можна, шасціканцовую зоркай, маладзікам ды каталіцкім і праваслаўным крыжамі на баках. Не было б хіба вялікай крыўды, калі б на месцы апошняга красавалася пяціканцовая зорка, бо ж жывуць сярод нас людзі, для якіх гэтыя два сімвалы — адно і тое ж; так як Лукашэнка і праваслаўе.

Для мяне рэлігія, у тым ліку і праваслаўе — гэта адна з формаў пакланення Усявышняму, а не нейкая ваяўнічая групоўка накшталт футбольных фанатаў. Ці калектыўная адказнасць нейкай цэлай канфесіі за злачынствы яе выраджаў „jest zgodna z prawem"? Ці „moralnie" прыкладаць да іх усіх аднолькавую Пракруставу мерку? А мо аўтар ніколі іх не бачыў і думае, што ўсе яны аднэй стэрэатыпнай масці: усе джынавай пароды, а „нашы" ж — усе адно анёлы? А мо аўтар не чытаў Евангелля; рэкамендую ад Матфея: 5:38—6:15. Прэтэнзіі, якія выартыкулаваў Pan Wiktor Owsiejczuk у адрас нашых канфесійных суседзяў, вельмі ж мне нагадваюць лозунгі польскіх псеўдабалельшчыкаў тыпу „«Legia» zbóje!". Ці не нашушукаў яму іх бес, якога арабы называюць джынам?

Святы Афанасій, адзін з айцоў Царквы, асцерагаў, што бес найбольш захадаў робіць вакол асабліва руплівых вернікаў, намагаючыся адвесці іх ад Дабра. Прыкладам гэтаму „okres krucjat, kontrreformacji, prześladowań, inkwizycji", а таксама рэлігійны тэрор імператара Юсцініяна ў радзімай праваслаўю Візантыі. Што было, тое яшчэ не звялося, напрыклад, у Югаславіі.

Выдумку-недадумку нашых рэлігійных актывістаў можна было б ушанаваць маўчаннем, але... „Людзі кажуць, што чорт любіць сядзець у старой дуплястай *вярбе*" (Federowski, *Lud Białoruski na Rusi Litewskiej*).

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

**Частка II**

На ўсход ад Кунцаўшчыны, над ракой Свіслаччу, дзе былі самыя лепшыя землі, размяшчаліся багатыя шляхецкія аколіцы. Іх налічвалася каля 70. У кожнай такой аколіцы было ад 12 да 80 забудоў, так званых „загродаў". „Шляхціц на загродзе — роўны ваяводзе" з пахвальбой заяўлялі шляхцічы. Шляхта карысталася асобымі прывілеямі, не хадзіла да пана Пуслоўскага на паншчыну. Насіла іншае адзенне. Нават шляхецкія палеткі ворнай зямлі адрозніваліся ад кунцаўскіх. Загоны ворнай зямлі мелі форму выгнутай шаблі, так званыя „заклы". Аднойчы, калі Іван Карскі, праязджаючы каля аколіцы, запытаў у старога шляхціца, якая гэта вёска, яму абураны шляхціц адказаў: „Копыто — тэн дурань, хто пыта!" Шляхецкія аколіцы адрозніваліся ад вёсак тым, што ў іх не было вуліцы. А двары „загроды" размяшчаліся без плана. Пабудовы шляхецкія хаваліся ў зеляніне, акружаныя платамі з брамамі. Будынкі крыліся ў асноўным саломай, часамі дранкай. Асобна будаваўся свіран. У большасці хат падлога была дашчатая. У заможнейшай шляхты каля ўязной брамы стаялі мемарыяльныя слупы. Слупы, вышынёй у 2-3 метры, завяршаліся невялічкай капліч-кай, на адной са сцен яе — разьба па дрэве — сэрца, прабітае кап'ём.

З паўднёвага боку Кунцаўшчыны, у пойме рэчкі Лашанкі быў выган, на якім расла алешына, лаза, чарот. У рэчцы Лашанцы былі ў асобных месцах глыбокія віры, у якіх сялянскія хлапчукі, у тым ліку і я, плавілі коней, купаліся, рукамі ў рэчцы лавілі рыбу, ракаў, якіх было шмат, асабліва ва ўрочышчы Ракаўшчына. Бывала, паскідаем з сябе адзежу, залезем у рэчку і давай рукамі лавіць ракаў. Засунеш у нору руку, у якой сядзіць рак, і выцягваеш яго, выкідаеш на бераг, а потым збіраеш іх у сарочку з завязанымі рукавамі. Пакуль наловіш ракаў, часта пакалечыш рукі. Асабліва старыя ракі надта ж моцна шчыпаліся, да крыві калечылі пальцы рук...

Над вёскай Кунцаўшчынай, помню, узвышалася старая таполя з буславым гняздом, якую, кажуць, пасадзіў мой прапрадзед Мацей Цыхун у маладосці. Начную цішыню час ад часу парушаў буслінЫ клёкат. Буслоў у Кунцаўшчыне лічылі святымі. Іх ніхто не крыўдзіў. Думалі, што яны прыносяць чалавеку вялікую карысць, ахоўваюць вёску ад няшчасных выпадкаў, хваробы, голаду і пажараў. Лічылі, што ў адрыну, на якой буслава гняздо звіта, ніколі не ўдарыць пярун, не загарыцца.

У вясновы перыяд наваколле напаўнялася начнымі канцэртамі жабаў і салоўак. Летам Кунцаўшчыну зачароўвалі навакольныя палі збажыны. Палавела жыта. Пад лёгкім подыхам ветрыка яго жытнёвыя хвалі каціліся, набягалі адна на другую. Сярод жытнёвага мора сям-там маячыліся самотныя дзікія грушы-дзічкі, зялёныя кроны якіх гушкаліся на жытнёвых хвалях, нібы дзівосныя караблі. Хвалявалася жытнёвае мора. Спелым калоссем звінелі яго берагі. Пахла свежым хлебам, медуніцай, васількамі. Яно прыцягвала да сябе чалавека. Так і хацелася пайсці і акунуцца ў яго духмяныя хвалі, услухацца ў яго шэпт, уваб-раць у сябе яго таямнічасць. Але боязна было русалак, якія жывуць у жыце. Казалі, гора таму, хто далёка забрыдзе ў жыта, напаткае залатую русалку. Яна яго заказыча да смерці, абматае доўгімі валасамі і ад сябе ўжо не адпусціць. А дзяцей, каб не лезлі ў жыта, бабулі палохалі Русавым дзедам. Памятаю, як нас, малых, у тым ліку і мяне, палохала Русавым дзедам наша далёкая сваячка, бабуля Явуся. І мы яе слухалі, не лезлі ў жыта, не таптáлі. Баяліся Русавага дзеда.

Аднойчы бацькі паехалі на торг да мястэчка Індуры, а мы засталіся з бабуляй Явусяй. Бабулю Явусю мы дзецi вельмі паважалі. Яна нам расказвала пра вадзянікоў, ведзьмароў, пра залатых русалак, што жывуць у жыце. Спявала жніўныя песні. Задавала цікавыя загадкі. Нам вельмі хацелася, каб яна расказала што-небудзь і пра Русавага дзеда, што жыве ў жыце. Прасілі яе. Бабуля глядзела на нас, хітравата ўсміхалася, паўтарала: „Ой, дзеткі, і страшны ж Русавы дзед!" Затым пачала пра яго расказваць: „На маім вяку, — казала яна, — давялося два разы з ім спаткацца. Усялякіх давялося бачыць: вадзянікоў, гальшоў, русалак, але з іх Русавы дзед самы найстрашнейшы, бо ён дзяцей хапае..." Пасля такіх слоў нам станавілася страшна. Мы перагляддаліся паміж сабой, кожны з нас адчуваў за плячыма халадок, чуў, як прабягалі па целе мурашкі. А бабуля Явуся глядзела на нас з усмешкай і працягвала расказ: „Русавы дзед, — казала яна, — заўсёды ходзіць у доўгай кашулі, падпярэзаны круцялём, босы. Высокі, з барадой, з доўгімі русымі валасамі. Таму і празвалі людзі яго Русавым дзедам. Жыве ў жыце, як і русалкі, да самага жніва, як той кароль у сваім царстве-гасударстве. Што хоча, тое і робіць, рондзіць. Пільнуе, каб ніхто жыта не патаптаў. Жыве, дзеткі, ён не адзін, а са сваімі перапёлачкамі, курапатачкамі, жаўручкамі, кнігаўкамі, дзяркачыкамі. А найбольш любіць ён дзяркачыкаў, бо яны яго ахраннікі. Пазашываюцца ў жыта ці ў густую траву, і ўсю ночку дзяруцца, як могуць, каб ніхто і блізка не падышоў да яго: «Дзёр-дзёр! Дзёр-дзёр! Дзёр-дзёр!..» Крычаць на ўсю аколіцу. А Русавы дзед, накрыўшыся верасковай радзюжкай, спіць сабе на мяжы пад дзічкай, грушай і ў вус ні дзе..."

Бабуля Явуся прыпынялася, задумвалася і далей расказвала: „А аднойчы ў мяне з ім было і такое здарэнне: Іду сабе сцежачкай праз жыто, а яно як той лес, высока, высока, густое. Вуж не пралезе. Звоніць сабе каласкамі. Я тут зірць убок — і замярла ад страху. Бачу — той самы Русавы дзед. Як на карцінцы якой, каля сцежачкі сядзіць, нешто глубае. Стаю, як укопана. Ні ўперад, ні назад. Думаю, каб це трасца ўзяла і з дзедам! Што рабіць? Прапала! Задушыць адну ў жыце дый годзі, не абаронішся. Але ж Бог літасцівы Гарцёма наслаў, суседа. Зірнула, а Русавага дзеда і след прастыў. Толькі яго і бачыла. Гарцём доўго з мяне смяўся: «Гэ, кажа, старая нешто прыдумала! Ніякага Русавага дзеда не было. На нешто прыглядзілася»".

Пасля кароткага перапынку бабуля Явуся ізноў нам расказвала пра Русавага дзеда: „А калі я ашчэ маленькай была, да мяне была прычапілася трасца. Такая хвароба некалі была. Некаторыя людзі казалі: «Гэ, трасца не хвароба. Ад яе ніхто не памёр». А я вам кажу, хвароба, ды яшчэ якая гадкая. Як прычапілася да мяне, радачкі не было. Кожны вечар трасе, як кажуць «І за бацьку і за се». Маці плакала, убівалася, а парадзіць нічога не магла. Бо ў той час ніякіх лекараў не было, ні тое, што цяпер у кожным сяле — лекар. Не было каму лячыць.

Перад тым, як трасці, я залазіла на печ. Маці навальвала на мяне бацькавым кажухам, буркай, а мяне ўсёроўна трасло, калаціло. Бало, ляскаеш, як той галодны воўк, зубамі. І так кажнюсенькі вечар".

Нам вельмі цікава было і мы адначасова запыталіся: „Бабулю, а раскажыце, як вылячыліся ад той трасцы?" Бабуля Явуся памаўчала хвіліну, уздыхнула, глянула на нас і далей працягвала: „Адзін раз суседка Барбуша маёй маці дык кажа: «Ганулю, што ты сабе думаеш? Глянь, што сталасо з тваёй дачкой? А ці тая трасца давяла? Вядзі ты яе да Русавага дзеда, хай ён выжане з яе гэту трасцу. Трэбо, каб доб-ра спалохаў. Яна сама ўцячэ, выйдзе».

Памятаю, было гэта на Пятра і Паўла. Маці паклікала мяне да сябе дый кажа: «Явуську, пойдзямо паглядзімо з табой, як цвіце наш лён». Была святая раніца. Сонейка грэло. Жыто стаяло ў рост чалавека. Галавело. Зараз жаць. А здалёк сінеў наш лён. Маці падвяла мяне да яго, дый кажа: «Ты, Явуську, тут пачакай, а я зараз вярнусо». Добро, кажу. Стаю, чакаю. Слухаю, як жаўручкі пекна спяваюць. А зноў, раптам, чую матчын голас: «А іей! Явуську!.. Прандзей уцякай! Русавы дзед! Русавы дзед!..» Я залементавала на ўсё поле. І пабегла, як магла. Прыйшла да прытомнасці, калі маці мяне гладзіла па галаве і казала: «Явуську! Не плач! Усе абышлося добра. Русавы дзед выгнаў трасцу. Даволі, папамэнчылася ад яе». І праўда, з той пары трасцу, як хто рукой адняў. А ў тую вайну, — працягвала бабуля Явуся, — Русавы дзед нават партызанам зрабіўся. Сваіх хаваў у жыце. А хай, бало, які немчурыско пакажацца ў жыце, так і засмаліць з кулямёта, як касой зрэжа. Ого! Як агню непрыяцелі баяліся Русавага дзеда!.."

Бабуля Явуся Цыхун, Баўтрукова, так па-вулічнаму яе называлі, не толькі цікава расказвала казкі, байкі, ведала шмат прыказак, прымавак, але была ў вёсцы Кунцаўшчыне і вядомай знахаркай. Яна загаворвала і выпякала рожу (інфекцыйную хваробу скуры), вылівала валасяніцу (валасень, паразітычны вадзяны чарвяк, падобны на волас), і іншыя хваробы. У маленстве я вельмі любіў купацца ў рэчцы Лашанцы, у якой было шмат валасяніц. Адна з іх была ўелзла мне ў ступню нагі. Нага спухла, стала сіняй. Пачаліся пякельныя болі. Не находзіў сабе месца, так балела. Бацька хацеў палячыць, узяў дый пасыпаў на балючае месца, як называлі, сінім каменем (медным купарвасам). Стала яшчэ больш пячы. Не было рады. Тады бацька ўзяў мяне на плечы і занёс да бабулі Явусі. Яна паглядзела і сказала: „Валасяніца ўлезла ў ногу. Трэба выліць яе". Нагрэла вады. Наліла ў кубак. Узяла пучок жытнёвых каласкоў. Падлажыла пад хворую нагу, нешта шэпчучы, стала паліваць з кубка цёплай вадой. Праз некулькі хвілінаў яна выняла з-пад хворай нагі пучок каласкоў, паглядзела на іх і сказала бацьку: „Во, паглядзі як круцiцца валасяніца! Во, якая яна. Жывы волас!.." Пасля бабулінага лячэння, вылівання валасяніцы боль як хто рукой адняў. Бацька мяне ўжо на плячах не нёс, я ўжо сам, трохі прыкульгваючы, прыйшоў дахаты. А пасля трохразавага вылівання валасяніцы мая нага зусім перастала балець.

**Апанас Цыхун**

# Даволі!

Чарговы ўрок самаедства (а мо так гук „д" змяніць гукам „б") адбыўся. Ёсць ахвяры, пакрыўджаныя — няма, здаецца, пераможцаў. Аднаму ад усяго гэтага зрабілася млосна, другога панос панёс, трэцяму здорава адрыгнулася. Нехта ізноў засумаваў, заславаў і бэкнуў, іншы — адхіліўся. Гаворыцца нават аб маньякальнай дрыстачцы. Словам — усё на мінус і нічога новага. А ў кожнага, у каго мазгі варацъ хаця крыху, узнікаюць там жа запытанні: дзеля чаго?, ці варта?, як доўга яшчэ?... Запытанні і простыя, і не простыя, мо і таму, з-за гэтай дзіўнай і на від уяўнай супярэчнасці, адказаў не відаць.І няма што іх чакаць? А гэта абазначае, што ў дрыгве давядзецца таптацца прынамсі да канца свету. А мо і даўжэй.

Ну вось, што выклікала так хворае, бо дрыстачковае, успрыманне цераз „Ніву" крытыкі? Ці свабода думкі і слова ёсць прысуджаная толькі для старонак і муроў рэдакцыі, або пэўнай, той ці іншай, групы людзей? І ці сапраўды газета ёсць такая цаца, што і слова дрэннага ў яе адрас сказаць не можна? Гмы... У мяне свая ацэнка „Нівы" і я скажу толькі адно — „Ніву" цаніць (і чытаць) трэба, хаця б таму, што яна беларуская, нашая. Ёсць, вядома, і іншыя плюсы. Але... Але тое, што падабаецца Геніку або Валі не мусіць захапляць, а нават падабацца Васілю. Чаго іншага можа чакаць ад яе Віця ці Іаанна, а зусім чаго другога Юрка. І сказаць нешта пра змест такі Юрка, нават не чытаўшы, а толькі пераліставаючы яе, можа. Тым больш, калі гаворка ідзе пра Юры Асенніка. Гэты хлопец сам, а таксама з сябрамі, поўнасцю аддана беларускай справе і робіць для яе больш чым адзін, два... пяць... семінары, фэсты і т.п. А якую падзяку за гэтае ён і яго сябры атрымоўваюць, то ўсе зацікаўленыя ведаюць. Я, з поўнай адказнасцю за слова, кажу: **Ю. Асеннік жыве для беларускасці, а не з яе.** І каб не рознага тыпу перашкоды і штуршкі з усіх бакоў то ён і існуючы (усётакі) ЗБМ зрабілі б шмат чаго яшчэ больш. Але, як напісаў князь з Бандароў, Алесь Барскі — лепш зрабіць менш, але лепш, чым больш, але горш. А калі мы ўжо пры высокароджаных, дык трапна Вы, Яўген Міранович, назвалі Юры Асенніка царыкам. Толькі што афарбоўку далі не тую. Але ўжо татальным промахам лічу факт, што пробуеце надзець маску блазна асобе, якая (як хіба адзіная тут) гаворыць шчыра тое, што думае. Словам — не крывадушнічае!

І шкада яшчэ спадара Лук'янюка, які пэўна завіхаецца някепска, збіваючы і шліфуючы сталы і круглыя, і трохвугольныя, і квадратныя... Мо з адзін падарує спадару Куптэлю, якому стол раскірэчыўся пасля ягонага ўдару. А ножніцы ўзялі ды азваліся ледзь-ледзь.

**Яўген Бялькевіч**

# Парнасік

* * *

Падзялілі мы свой час
як агарод на загоны
кожны дзень абуты інакш
і бывае так што гумар
нам папсуе нейкі адменец
а мы выкінем сваю дурнату
ля мурашкі няхай цягне
на сваё калі яшчэ мала
а любіць мы любім толькі
грошы і саміх сябе
вось такая цесная душа
і рассыпаліся гэтыя нашы
бязверцы як самасей
толькі тлумачыць не будзе каму
старыя дрэвы згорблены
глухія як пень
а перасадзіць — не дай Бог
заўтра ў парахно
абернуцца

**Уладзімір Саўчук**

## Словы

Словы не птушкі,
ды злятаюць з вуснаў.
Яны не б'юць,
а моцна раняць.
Знявага баліць
і не гоіцца доўга.
Яны
да бойкі даводзяць
і згода без іх
не абыдзецца.
Не зраўняеш іх
з кулямі,
якімі
чалавек страляе,
а носіць іх Бог.

**Аўрора**

## Уладзімір Сідарук

Ён цвёрда за праўду змагаецца
І за яе, як кажуць, маецца.
Жулікаў раскрывае навокал,
Бо яны нікчэмным скокам
Раскрадаюць чыгунку —
На што няма паратунку.
Ён вораг зладзеяў і бюракратаў,
Якія не выглядаюць з-за кратаў,
А на свабодзе гуляюць
І Польшчу з усіх бакоў абкрадаюць.
На жаль: ён „адзін у полі ваяка",
Любіць і бароніць няшчасных
і небаракаў.
Простыя людзі яго любяць
і шануюць,
Чытаючы яго матэрыялы — часу
не марнуюць.
Гэта геніяльны карэспандэнт
„Нівы",
Сумленны, спагадлівы і не баязлівы.
Піша, як сапраўдны журналіст
здольны —
Ён чалавек „свайго часу" і вольны.
Піша здаўна з перарывамі
І з вялікімі геройскімі парывамі.
Часта ідзе адважна
ў „асінае гняздо"
І паказвае людзям праўдзівае зло.
Такіх людзей нам трэба цаніць,
Ад іх вучыцца, імі даражыць!
І я многаму ад Сідарука
навучыўся,
Яго таленту, адвазе дзівіўся.
Дзіваваўся, як ён прыгожа піша
І нікому пятаў не ліжа.
Гэта чалавек, якіх мала ў нашым
асяроддзі,
Такія людзі патрэбныя ў прыродзе;
Бо ён любіць і шануе прыроду
таксама:
Яе знішчанне — для нашага
героя вялікая драма.
Ён любіць хадзіць па лесе кузаўскім,
Цешыцца спевам птушак
і пахам травы;
Ён здольны напісаць кнігу
пра гэта —
Няхай здзейсніцца гэтая
высакародная мэта!
Жадаю яму шчасця, здароўя
і адвагі,
Ад людзей і прыроды — любові
і павагі.
Ад яго мы можам гэта прыняць
І свой маральны абавязак
вышэй паднімаць.

**Мікалай Панфілюк**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. гара ў Каракаруме, 8611 м., 3. горад у Германіі, 5. кручок для зашпільвання вопраткі, 7. сталіца Багамскіх астравоў, 9. фларэнцкая рака, 10. кажух да каленяў, 11. вісячы груз для прывядзення ў рух механізма, 12. ваенны з лёгкай кавалерыі, 14. праліў і група выспаў у архіпелагу Рукю, 16. горад на поўнач ад Рыміні, 17. раман Томаса Мора.

**Вертыкальна:** 1. кароткі адрэзак часу, 2. сталіца Латвіі, 3. завостраны металічны стрыжань для змацоўвання, 4. выробленая авечая шкура, 6. насякомае, шкоднік садоў, 8. горад зімовых алімпійскіх гульняў у Японіі, 9. антычны жрэц-прадказальнік волі бажаства, 11. струнны шчыпковы музычны інструмент, 13. суседка Шатландыі, 14. возера ў Афрыцы, крыніца Блакітнага Ніла, 15. званы вечар без танцаў.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 16 нумара**

**Гарызантальна:** пячора, Севілья, Таледа, Кордава, клапан, Рансар, ускраек, Столін, Грамада, трэнне.

**Вертыкальна:** ясакар, свіран, Елгава, пятак, чалма, раджа, лектар, пракат, нектар, алтар, салон, Рунге.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніліся мне нядаўна два сны, пра якія я хацеў бы табе расказаць.

У першым сне быццам іду я па ўсходах у нейкім блёку. Падыходжу да лесвічнай пляцоўкі і бачу, што побач са мною двое маіх калег з працы. Раптам проста перада мною нехта хлюснуў з вядра памыі, якія разліліся па пляцоўцы. Я не магу прайсці, бо яны проста пад маімі нагамі. Тады адзін з калег прыносіць аднекуль анучу і старанна выцірае памыі.

У другім сне быццам я ў нейкім агародчыку. Бачу ўзараную зямлю. Стаіць хатка. Адным словам, я на вёсцы, але ўсё нейкае шэрае, панурае. Раптам я бачу сябе ў вялікай студні. Яна неглыбокая, а мо проста я сяджу, за нешта ўчапіўшыся. І што я там раблю? Не магу вызначыць, хто мяне папрасіў — муж ці бацька-нябожчык, — каб я зашнуравала нешта ў гэтай студні. Я шнурую скуранымі шнуркамі гэтае „нешта", якое трымаецца тае цэмбравіны дзякуючы гэтаму шнурку, але бачу, што мне яго не хапае. Шнурок скончыўся, і я не магу зашнураваць да канца.

Чаго чакаць па гэтых невясёлых снах?

**Яня**

Яня! Ізноў табе сніцца невядома што. А каб нешта весялейшае?..

У кожным выпадку ілгаць не збіраюся. Тыя памыі з першага сну абазначаюць крыўду, плёткі і страту. Нешта не будзе ладзіцца ў тваіх справах. Зрэшты, і ўзыход па той лесвіцы не быў шчаслівы, бо ты змагла прайсці праз памыі, вылітыя на пляцоўку, толькі дзякуючы калегу, які іх прыбраў.

Што датычыцца другога сну, дык гэта студня магла б абазначаць поспех у справах і гаспадарцы, калі б хапіла табе таго шнурка для шнуравання. А так будзе нейкая нястача, страта. Прабач, мілая, мне, старому.

**Астрон**

# Паны сахі і касы

Звалачыўся я нядаўна ў Варшаву; от, так сабе. І, пры нагодзе, пацікавіўся, як тамака жывуць нашы беларусы. А жывуць яны — не хлеб жуюць, як калісь мужыкамі ім бывала, толькі панамі варшаўскімі парабіліся такімі, што без кія і не падыходзь! Вельмі важнымі цяперака яны панамі: кожны дуецца, як індык або пава і важнейшым ад другіх сябе лічыць. І, узаемна даказваючы сваю неардынарную важнасць, перасварыліся сталічныя, хто з кім толькі мог!

На нашай глыбокай правінцыі старая затухласць — мужыкі яшчэ тутака, у якіх сварка — як іскрынка: успыхне і пагасне. Ну, нельга сказаць, што няма тамака прагрэсу, бо ж панская мова паспяхова пранікае і на самую глыбокую правінцыю, а следам за ёю валакуцца і фешэнебельныя панскія звычаі. У мястэчках прагрэс большы, але і тамака не кожны пендрыцца панам, бо ж усім наогул вядома, што салома ў яго за халявамі.

Беласток доўгі час лічыўся большаю вёскай — от, такою правінцыяй за лупаю. Але цяперака і Беластоку падуў вецер у ветразі: маем тутака і свой універсітэт на ўсю правінцыю, і такое ж тэлебачанне. Прагрэс горада і павышэнне яго жыхароў — ашаламляльныя! І пачулі той вецер прагрэсу нашы гарадскія беластоцкія мужыкі, асабліва тыя, якім пашанцавала глядзець на простанароддзе з вышынь выбарчых плакатаў. І палічылі сябе раўнёю варшаўскім партрэтаглядным: Беруту, Гамулку, Герку... І, на падабенства гэтых выдатных змагароў і іхных варшаўскіх эпігонаў, даказваюць адзін аднаму адрыў ад народных масаў.

Людзі добрыя! Не падсмейвайцеся з нас: мы ж таксама хочам панамі звацца...

**Адам Маньяк**

# Камюніке

Таварыства будовы Помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны забітым, замардаваным, замучаным і прапаўшым у 1939-1956 гадах паведамляе, што на наш рахунак: PKO BP I/O Białystok, nr 10201316-379887-270-1 свае грашовыя ахвяраванні пералічылі наступныя ўстановы:

Гмінныя ўправы: Нурэц-Станцыя (300 зл.), Чаромха (400 зл.), Дубічы-Царкоўныя (500 зл.), гміна Гайнаўка (500 зл.), Орля (1000 зл.).

Прыходы: Сакі (25 зл.), Рыбалы (100 зл.), Орля (200 зл.), Плёскі (200 зл.), Стары Корнін (213,25 зл.), Благавешчанскі (150 зл.) і Прачысценскі (270 зл.) у Бельску-Падляшскім.

Наш адрас: Stowarzyszenie Budowy Pomnika Prawosławnym Mieszkańcom Białostocczyzny, ul. Warszawska 11, 15-062 Białystok.

# Юбілей ПСС „Сполэм"

Сёлета Усеагульны кааператыў спажыўцоў „Сполэм" (ПСС) у Гайнаўцы будзе святкаваць 75-годдзе сваёй дзейнасці. Цяпер у ім працуе 170 чалавек.

ПСС „Сполэм" у гэтым пушчанскім горадзе мае дваццаць прадуктовых і прамысловых крамаў, а таксама пякарню хлеба і піражнага. Усе яны карыстаюцца новым абсталяваннем. Адна з найпрыгажэйшых крамаў ПСС — гэта Кааператыўны гандлёвы дом у цэнтры горада, па вуліцы 3 Мая.

У крамах і ў пякарні праводзяць практычныя заняткі вучні мясцовых прафесійных школ — 65 будучых пекараў і прадаўцоў.

**(гай)**

**Ніва**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 435 022.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка

**Фрашкі пра нашых**

## Прападабенствы

Сабака — найвярнейшы
 сябар чалавека
І ніхто, як ён,
 не зразумее,
Чаму, у залежнасці
 ад ветру і ад веку
Так вельмі брэшацца,
 то зноў — нямее.
Кажуць, сабака
 на гаспадара,
Наглядзеўшыся,
 робіцца падобным.
Што звер! І ў людзей
 такая ёсць пара,
Калі ўсе раптам —
 п р а п а д о б н ы я .

## Культкулінарыя

Добра „Ніву" чытаць хорам.
Смачна „Ніва" з агурком.
І карысна памідоры
Ў „Ніву" завязаць шнурком.

Бульбу ўсмажыш. Да смятаны
Памідор з цыбулькай урэж.
Гэта будзе смачна, танна.
Прачытаеш, не памрэш!

**Вандал Арлянскі**

## Сентэнцыі Барыса Руско

* Крайнасцямі д'ябал ускіпае.

* Бясконцасць скрыўлена, а далей трансцэндэнтнасць.

* Калі ты ўпаў — устань, стоячых не топчуць.

* Разважнасць вучоных — дабрадзейнасцю.

* У люстэрку ўбачыш толькі тое, што хочаш убачыць.

* Найлепшыя супрацьсонечныя акуляры — хмары.

* Калі знаеш адказ — пытай сябе самога.

* Ландыш быццам дзяўчына ў шлюбным вэлюме, духмяна-белая чакае ў зеляніне лёсу.

* Кола — вуж з хвастом у зубах.

* Крык не ключ — дзвярэй не адчыніць.

* Багацей шэпча — званы б'юць.

* У жыцці іграюць усе, выйгрываюць жа адзінкі.



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## Як лісіца ў саладуху

За гады сядзення ў прэзідыумах Васіль Васілевіч Кнырын налаўчыўся на любых, нават самых надакучлівых нарадах, канферэнцыях, сходах адчуваць сябе, як рыба ў вадзе. Падапрэ валасатай рукой круглую, як гарбуз, галаву з добра абазначанай лысінкай, прыжмурыць вочы, нібы засяродзіўся на вельмі важным пытанні, — і дрэмле спакойна. А калі на сон не цягнула, Кнырын лёгка пераключаўся на праблемы, вельмі далёкія ад тых, што абмяркоўваліся. Вось і на гэты раз, хоць і сядзеў паблізу з трыбунай, прапускаў ля вушэй усё тое, пра што гаварыў начальнік.

Будучы не па гадах ахвочым да жаночага полу, Кнырын, мыляючы вуснамі, у думках распранаў сакратарку Зіну, якая сядзела ў зале на першым радзе. Папраўдзе, распранаць яе не так ужо і складана: міні-спаднічка ледзь прыкрывала тое месца, адкуль ногі растуць, з-пад занадта дэкальтаванай блузкі выпіралі поўныя, бы сокам налітыя, цыцкі.

Кнырын гэтак далёка зайшоў у сваіх думках, што зусім забыўся, дзеля чаго ён тут сядзіць. Даклад начальніка для яго зліваўся ў аднатоннае — „ду-ду-ду-ду"...

А дакладчык, між тым, распякаў аматараў лёгкай нажывы:

— Паглядзіце, што робіцца — некаторыя нашы чыноўнікі кінуліся ў камерцыю. Самі яны, вядома, за прылаўкам не стаяць, але выкарыстоўваюць службовае становішча, спрыяюць розным махлярам і такім чынам набіваюць грашамі ўласныя кішэні. Нядаўна да нас паступіў сігнал, што і спадар Кнырын паквапіўся на дармавыя грошы...

Васіль Васілевіч пачуў з прамоўленага дакладчыкам толькі сваё прозвішча, бо ў гэты час яго ўвага была засяроджана на абцягнутых бліскучымі панчохамі круглых Зініных каленках, а ў галаве чамусьці круцілася сто разоў чутая рэклама: „Ад Парыжа да Находкі Омса — лепшыя калготкі"...

„Пра што гэта начальнік гугнеў? — занепакоіўся Кнырын. — І чаго ўтаропіў свой погляд у мой бок? Чакае падцвярджэння нейкай сваёй думкі? А якая яго думка? Трэба неяк выкручвацца..."

— Калі гаварыць чэсна, — мовіў Кнырын, — то інакш і быць не магло... Тут вы, як заўсёды, вельмі правільна падмецілі, Іван Фёдаравіч... Усім нам трэба больш рашуча ісці наперад у гэтай справе...

Зала выбухнула рогатам. Кнырын зразумеў, што ляпнуў нешта не тое, што трапіў, як лісіца ў саладуху. Вушы яго пачырванелі, на твары з'явіліся белыя плямы. Ён разгублена глядзеў па баках, шукаючы паратунку...

**Аляксей Каўко**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Хто выдумоўвае анекдоты пра бландзінак?

— Шатэнкі, якія ноччу не могуць адзінока спаць.

* * *

— Чаму так многа анекдотаў пра бландзінак?

— Каб брунеткі прынамсі адзін з іх зразумелі.

* * *

Вяршыняй нахабства з'яўляецца званіць да маладое пары ў пасляшлюбную ноч і пытацца, які гэта нумар.

* * *

Дыялог закаханых:

— Прызнайся, каханая, ці перада мною цалавалася ты з другім мужчынам?

— Ніколі! Але чаму вы, усе мужчыны, ставіце такое дурное пытанне?

* * *

— Мірачка, чаму малюешся перад спаннем?

— Бо Юрка сказаў, што я з'яўляюся жанчынаю яго сноў.

* * *

— Дунечка! Ты з'яўляешся найяснейшым сонейкам майго жыцця; твая ўсмешка разганяе цёмныя хмары, якія збіраюцца на небасхіле, а тваё вочы дзейнічаюць на мяне як маланка ў час буры...

— Ну добра, добра; ці ты мне прызнаешся ў любові, ці чытаеш метэаралагічную зводку?

* * *

— Я чуў, што ты кожнай дзяўчыне гаворыш „Закахаўся ў табе з першага позірку"...

— Гэтакім чынам я зберагаю многа часу.

* * *

На патанцоўцы:

— Калі танцую з табою, зала здаецца мне пустыняй...

— Чаму?

— Бо танцуеш як вярблюд.

* * *

Яна звяртаецца да яго:

— Кахаеш мяне?

— Ясна!

— А ці ажэнішся са мною?

— Ой! Ты заўсёды мусіш памяняць тэму размовы...

## *Сардэчныя* ТАЙНЫ

Сэрцайка! Прабач, што мо пішу я нясkладна, але сама ўжо не ведаю, як жыць.

Хлопец вучыцца ў адным класе са мной (другі клас ліцэя). Хто б падумаў, што справа так абернецца... Ён такі прыгожы і сімпатычны. Усім дзяўчатам падабаецца. Кожная хацела б з ім хадзіць. Спадабаўся ён і мне. А што я, горшая? І я марыла, каб ён запрасіў мяне прынамсі на дыскатэку. Старалася быць блізка, усюды там, дзе мог быць ён.

Калісь як глянуў ён на мяне, дык, думала, сэрца лопне. Але і я адважылася і глянула ў ягоныя блакітныя, быццам мора, вочы. У гэты момант нешта ў нас пачалося.

Я не ўяўляла сабе дакладна, як будзе выглядаць наша сяброўства, але думала, што будзем сустракацца раз у мяне, раз — у яго. Будзем часам хадзіць на шпацыр, а часам рабіць разам урокі. Пра ўсё будзем расказваць адзін другому, дзяліцца. Пойдзем у госці да сяброў, на імяніны, дыскатэку, часам у кавярню, летам паедзем у лагер.

А хлопцу гэта не было патрэбна. Яго галаву займалі зусім іншыя думкі. Ужо на адной з першых сустрэч ён пачаў прытуляцца да мяне даволі рашуча. Ужо нават і распорак расшпіліў, але я тады ад яго ўцякла.

Пацыху скажу табе, Сэрцайка, што пакуль мы з ім не пачалі хадзіць, я думала, што гэта скромны і добра выхаваны хлопец. А пасля зразумела, што ён у дзяўчатах бачыць адно: саміцу.

Думаеш, ён змяніўся, калі я ад яго ўцякла?! Наадварот, стаў яшчэ больш настойлівы. Сэрцайка, хлопец мне падабаўся, але не цягнула мяне да яго аж так моцна, каб аддацца яму цалкам. І тады ён паставіў пытанне рубам: альбо... ідзем, альбо я адыходжу. Не бойся, сказаў, нічога не будзе. Убачыш, як гэта прыемна. Ну, што ты, малая?! У шаснаццаць гадоў іншыя ўжо дзяцей мелі, а ты з хлопцам праспацца баішся?!

Ну, прасіў-пераконваў, і я згадзілася. Вельмі мне хацелася быць з ім. Каб мяне хаця не кінуў. Сорамна было б перад дзяўчатамі. А цяпер вось...

Праспалася ўсяго адзін раз, а я ўжо ведала, што нешта не так. Адчувала сябе кепска, увесь час ваніты, не паявілася менструацыя. Каб не даведаліся бацькі, пайшла да прыватнага лекара. Прыходжу і пытаюся, ці яна мяне прыме. Вядома, кажа лякарка. Але я не маю грошай! Сядай, кажа яна, на крэсла. Я ўцешылася, што прыме мяне, але ненадоўга. Ёсць, сказала лякарка і „абрадавала" мяне, што я цяжарная.

Хлопец адвярнуўся ад мяне цалкам, калі я паведаміла яму гэту навіну. А такі здаваўся мілы і сімпатычны. Цяпер я ў сёмым месяцы. Ужо ўсе гэта бачаць. Мне цяпер сапраўды сорамна. А найгорш — перад бацькамі, якія мяне заўсёды папярэджвалі, што мне можа пагражаць. Ці ж я думала, што можна зацяжарыць так проста, ад першага разу... Што рабіць, часамі маю ахвоту пакончыць самагубствам.

**Ірка**

Ірка, нічога не рабіць, чакаць нараджэння дзіцяці. Думаю, што школу ты не кінула, дык маеш дасканалы занятак: вучыць урокі. Паколькі ўсе ўжо пра цябе ведаюць (мяркую, што не толькі бліжэйшыя, але і далейшыя знаёмыя), дык няма чаго на іх азірацца. Рабі сваё! Пэўна, радзіць будзеш летам, дык у школу прыйдзеш свежая і адноўленая. Спадзяюся, што твае бацькі змогуць заняцца выхаваннем твайго дзіцяці, або прынамсі знойдуць кагосьці.

А мо і хлопец адумаецца, калі ўбачыць дзіця. Цяпер і яму нялёгка. І яму сорамна амаль таксама, як табе.

Бачыш, як адзін неразважны крок можа зламаць дзяўчыне ўсе жыццёвыя планы, шанцы на далейшую вучобу, кар'еру, добрае замужжа.

А яшчэ ж, каб была ты без памяці закаханая, а то, можна сказаць, ты проста хлопцу ўступіла, аддалася яму на яго просьбу, бяссэнсава.

Хаця, кажуць, ёсць і такія дзяўчаты, якія робяць гэта з дабрыні сэрца...

**Сэрцайка**